# НЕЖАНОЧЫЯ КЛОПАТЫ МІНІСТРА ВОЛЬГІ ДАРГЕЛЬ

***У канцы студзеня міністр сацыяльнай абароны Беларусі Вольга Браніславаўна ДАРГЕЛЬ адзначыла невялікі юбілей — пяць гадоў таму яна была прызначана на пасаду міністра. За гэты час шмат чаго змянілася. Але нязменнымі застаюцца арыенціры міністра Даргель: сацыяльная абарона насельніцтва краіны і падтрымка малазабяспечаных.***



Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.

**— ЦІКАВА, як адчувае сябе адзіная жанчына-міністр у мужчынскай кампаніі кіраўнікоў?**

— Адчуваю сябе нармальна. На мой погляд, калі жанчына-кіраўнік разлічвае, што да яе будуць паблажлівыя адносіны — як да прадстаўніцы «прыгожага полу», то з гэтага нічога не атрымаецца. Яна павінна разлічваць толькі на свае сілы.

**— Зараз вельмі папулярныя размовы пра дыскрымінацыю жанчын.**

— Я не сказала б, што гэта дыскрымінацыя. У пэўнай ступені... магчыма: жанчыны больш эмацыянальныя, з мужчынамі прасцей працаваць.

**— Усё-такі прасцей?**

— Так, жанчына ёсць жанчына. І ўсё ж, паўтараю, на рабоце ты адказваеш за даручаную справу. Калі несвоечасова выплачваецца пенсія, дык плач ці не плач (можаш нават залівацца слязьмі!), але ў цябе спытаюць: чаму? Не можаш арганізаваць работу — не бярыся!

**— Прабачце, а плакаць часта даводзіцца?**

— Без слёз, бывае, таксама не абыходзіцца. Нельга сказаць, што я жалезная лэдзі («Я человек, и ничто человеческое мне не чуждо»). Як атрымліваецца: калі нешта даказваю і, нават пачуўшы пярэчанні, настойліва пераконваю апанента, — ніколі не заплачу. Але раптам нехта скажа: «Што вы прычапіліся, правільна яна ставіць пытанні!» — вось тут магу заплакаць ад таго, што мяне пашкадавалі. Разумееце, я не строю з сябе вобраз жанчыны ці вобраз кіраўніка — якая ёсць.

**— Ці даводзіцца павышаць голас?**

— Кіраўнік крычыць ад слабасці. Увогуле накрычаць на чалавека — апошняя справа: начальнік можа накрычаць, аднак падначалены не можа адказаць тым жа. Калі здараецца павышаць голас, дык не для таго, каб зняважыць... Калі трэба спытаць, я спытаю канкрэтна, а часам і жорстка.

**— Кажуць, каб добра кіраваць, трэба навучыцца кіраваць...**

— Карнегі прачытала пазней... А першыя «кіраўніцкія» ўрокі атрымала ў свой час ад загадчыка Слуцкага РАНА, ён накіроўваў мяне працаваць завучам у Языльскую школу, але я сумнявалася: была вельмі маладой настаўніцай. Тады і пачула: «Калі пальчыкам указваць, нічога не атрымаецца. Ніколі «з налёту» не кажы чалавеку: ты дрэнны. Знайдзі ў ім нешта добрае, а потым ужо парайся з ім самім, што трэба зрабіць, каб атрымалася лепш»... Дарэчы, удалося знайсці агульную мову з калектывам школы. Магчыма, уласнай практыкі ў мяне было малавата, але што датычыць тэорыі — ніякіх праблем. А вопытныя настаўнікі менш увагі звярталі на методыку, менш чыталі спецыяльнай літаратуры. Я днявала і начавала ў школе, імкнулася зрабіць як мага больш. Настаўнікі ведалі: наведваю іх урокі не проста дзеля формы. Разам абмяркоўвалі, што атрымалася, што не вельмі. І на педсаветах не саромелася пахваліць калег, ведаючы, што добрае слова надае чалавеку сілы. Быў выпадак: настаўнік геаграфіі прыйшоў на заняткі без плана, урок прайшоў нецікава, без падыходу. Зрабіла заўвагу, а ён: «Яйка курыцу будзе вучыць!» Кажу: «Ну, калі такая курыца, дык варта, каб яе і яйка павучыла».

**— Прабачце, а чаму вы так мала ў школе папрацавалі?**

— Мяне абралі другім сакратаром Старадарожскага райкама камсамола, потым запрасілі ў Мінскі абкам, у аддзел школьнай моладзі. Затым працавала на розных пасадах у партыі, потым — намеснікам старшыні Мінаблвыканкама. А далей вы ведаеце... Як бачыце, пачынала з піянераў, а заканчваю пенсіянерамі.

**— З кім лягчэй працаваць?**

— Паўсюдна ёсць адметнасці. Галоўнае — трэба старацца зразумець людзей і памятаць, што кожны — індывідуальнасць. А ўвогуле, усе мы дарослыя — і ўсе мы дзеці. Любім, калі нам прыемныя словы гавораць.

**— А вы любіце?**

— Канешне.

**— Тады як у міністэрстве наконт падхалімажу?**

— А што гэта такое?

**— Калі падначаленыя гавораць прыемныя словы.**

— Думаю, кожны чалавек адчувае, калі шчыра гавораць, а калі табе хочуць дагадзіць. Мне проста сорамна бывае, калі штосьці прыемнае гавораць — але ж я ведаю, што гэта не так. Прама абарваць чалавека («не кажыце лухты!») не магу і ў той жа час не ведаю, куды сябе падзець, — выходзіць, падхалім лічыць мяне неразумнай, калі вешае «лапшу на вушы» і чакае, што я ўсё прыму за чыстую манету... Перакананая: толькі калі мы слабыя, толькі калі нам хочацца чагосьці недасягальнага, ліслівасць ідзе нам насустрач. Яна прыніжае чалавека. Аднак прывыкнуць да «салодкіх» слоў, на жаль, можна.

**— Значыць, вы згодныя з любімым выслоўем імператрыцы Кацярыны II: «Абапірацца можна толькі на таго, хто аказвае супраціўленне»?**

— Магчыма так. Пагадзіцеся, працаваць з сапраўднымі прафесіяналамі, творчымі асобамі — адна асалода. У калектыве павінна быць атмасфера добразычлівасці, падтрымкі адзін аднаго (у добрых справах). Кожную прапанову спецыяліста трэба абмеркаваць усебакова. Наша памылка вельмі дорага каштуе, таму што гэта датычыцца чалавека. Сістэма сацыяльнай абароны абслугоўвае каля 26 працэнтаў насельніцтва краіны. Таму і адказнасць кожнага супрацоўніка сістэмы вялікая. Павінна адзначыць, што ў большасці сваёй у міністэрстве працуюць сапраўдныя энтузіясты сваёй справы. На жаль, ёсць і выключэнні.

**— Вольга Браніславаўна, паколькі мы загаварылі аб вузка прафесійных справах, дазвольце задаць пытанне вам, філолагу, з дапамогай Якуба Коласа. У паэме «Сымон-музыка» ёсць такія радкі:**

Край мой родны! Дзе ж у свеце
Край другі такі знайсці,
Дзе б магла так, поруч з смеццем,
Гожасць пышная ўзрасці?
Дзе бы вобруку з галечай
Расквітнеў багацтва цуд
І дзе з долі чалавечай
Насмяяліся, як тут?..

**Гэта пісалася ў пачатку стагоддзя, але ці многае змянілася напрыканцы? Статыстыка жудасная...**

— Хочацца, каб вы правільна зразумелі нашы праблемы. Абвал, жабрацтва, смяротнасць, ніякай сацыяльнай абароны — гэта не так. Чаму? Патлумачу. Так, мы жывём небагата, пенсіі атрымліваем (параўнальна з цэнамі на тавары) невялікія. Аднак давайце «скакаць ад печы»: суадносіны заработнай платы і пенсій такія ж, як і былі ў недалёкія мінулыя часы, пенсія складае 39-40 працэнтаў ад сярэдняй заработнай платы. Аналагічныя суадносіны і ў высокаразвітых краінах. Іншая справа — нізкая спажывецкая здольнасць рубля. Наша сістэма пабудавана на пераемнасці пакаленняў: мы з вамі сёння забяспечваем пенсіянера, заўтра дзеці будуць забяспечваць нас. А давайце прааналізуем: пры ўсіх цяжкасцях пенсіянеры своечасова, мінута ў мінуту, атрымліваюць пенсію. І пенсія ў вёсцы вышэйшая, чым заработная плата калгасніка. Прычым зарплата ў вёсцы выплачваецца часам з затрымкай. Нашы пенсіянеры бачаць, як складана жыць дзецям, унукам, — і стараюцца ім дапамагчы, апошняе аддаюць...

На жаль, нямала прыкладаў, калі дарослыя дзеці, унукі жывуць за кошт пенсіі сваіх бацькоў, дзядоў, а яшчэ горш, проста прапіваюць гэтую пенсію. Трагедыя! Пры жывых дзецях бацькі-сіроты, а пры жывых бацьках дзеці-сіроты — штосьці з мараллю ў нашым грамадстве здарылася... Мы павінны дайсці да кожнага. Тое, што пад сілу Міністэрству сацыяльнай абароны, мы робім, — маё сумленне чыстае... Вы глядзіце, якая запазычанасць нам вялікая. Не ўсе суб'екты гаспадарання робяць адлічэнні ад фонду аплаты працы ў Фонд сацыяльнай абароны. Колькі даводзіцца тлумачыць: калі не рабіць адлічэнняў, за кошт чаго выплачваць пенсіі?.. У лютым на выплату пенсій спатрэбіцца каля 4 трыльёнаў рублёў. І гэтыя сродкі неабходна сабраць. На сённяшні дзень Фонду сацыяльнай абароны завінаваціліся 1 трыльён 900 мільярдаў рублёў. Нам павінны! І ад прадпрыемстваў прыходзяць ганцы: зрабіце адтэрміноўку...

**— Праблемы, праблемы... А калі крыху адхіліцца ад іх, прыгадаць больш прыемнае — дзяцінства, выбар прафесіі?**

— Родам я з Браслаўшчыны, бацькі сяляне. У школе ўсе прадметы ішлі аднолькава роўна, сама не ведала, што выбраць — матэматыку, хімію, фізіку ці літаратуру. Дарэчы, тое, што я добра ведала школьную праграму па ўсіх прадметах, вельмі дапамагала, калі працавала завучам.

**— І ўсё ж выбралі філфак.**

— Любіла мову, літаратуру. На філфаку вучыцца было вельмі цікава, глыбока займалася дыялекталогіяй.

**— Вольга Браніславаўна, ваша сям'я — гэта сям'я палітыкаў. Ваш муж А. Цішкевіч працуе ў Савеце Рэспублікі Нацыянальнага сходу РБ. Цікава, як вы пазнаёміліся?**

— Мы даўно ведалі адзін аднаго, яшчэ па камсамолу, разам працавалі...

**— Ці часта муж дорыць вам кветкі?**

— Часта. Мы адзін аднаго вельмі добра разумеем і падтрымліваем, у сям'і поўнае паразуменне.

**— Пра палітыку вы гаворыце дома, абмяркоўваеце нейкія пытанні?**

— Стараемся не гаварыць, але калі ёсць якія вострыя пытанні — абмяркоўваем. Вы ж самі ведаеце: калі штосьці здараецца, трэба абавязкова з кімсьці падзяліцца... У нас шмат сяброў, у вольны час сустракаемся.

**— Прабачце, а хто ежу гатуе ў сям'і палітыкаў?**

— Гатуем, галоднымі не ходзім! (*Смяецца.*)

**— Ці ёсць у Вольгі Браніславаўны фірменная страва?**

— Я не люблю гадзінамі стаяць ля пліты, нешта такое гатаваць. Галоўнае — каб хутка і смачна.

**— Яечня?**

— Не, хіба доўга бліны спячы? Ці бульбу пасмажыць, курыцу? Напэўна, кожная гаспадыня мае свае сакрэты.

**— Хатняй работніцы ў вас няма?**

— О, адкуль? (*Смяецца.*) У вольную часіну робяцца ўсе буйныя хатнія справы. Ніхто іншы не прыбярэ, не памые, не папрасуе.

**— У кіно, тэатр выпадае схадзіць?**

— У кіно — не. Зараз, здаецца, рэдка хто ходзіць у кіно. А тэатр, канцэрты па меры магчымасці наведваем... Я вельмі люблю літаратуру, зараз чытаю менш, аднак стараюся быць у курсе навінак. Прачытала «Стыліст» Марынінай, гэту пісьменніцу зараз ведаюць. Шматлікія кніжкі-ўспаміны палітыкаў не выклікаюць вялікай цікавасці — і па манеры пісьма, і па імкненню кожнага аўтара «паднесці» сябе... Большасць з нас — хлестаковы па жыццю. Хоць на вяршок, але хочацца паказаць больш, чым ёсць на самай справе: маўляў, калі я быў ля ўлады, мне перашкаджалі. Ну скажы шчыра: не атрымалася, не ўдалося зрабіць тое, што хацелася, навошта круціць?

**— А вы не плануеце напісаць кніжку ўспамінаў?**

— Ой, не!

**— Як вы ставіцеся да моды і дзе вы апранаецеся: Дом мод, замежныя крамы, самі шыеце, маеце сваю краўчыху?..**

— Канешне, якая жанчына не любіць прыгожа апранацца?.. У маім гардэробе няма нечага «гэткага». Звычайна купляю гатовыя рэчы. Зараз выбар ёсць.

**— Вы часта суправаджаеце жонак першых асоб, якія прыязджаюць у Беларусь з візітамі...**

— Было некалькі такіх выпадкаў, калі наведваліся нашы аб'екты (дом-інтэрнат, санаторый і г. д.), — я павінна прысутнічаць па пратаколу... Працуючы ў Сакратарыяце Вярхоўнага Савета РБ, пазнаёмілася з жонкай Шушкевіча — вельмі сімпатычны чалавек, жанчына разумная, не капрызная, «от мира сего». Кантактавала і з жонкамі кіраўнікоў краін СНД — жонкай Тэр-Петрасяна, Акаева. Выключная жанчына — Наіна Іосіфаўна Ельцына. Яна проста жанчына, і гэтым усё сказана. Перажывае за свайго мужа — як і кожная з нас... Калі на адной з сустрэч заспявалі «Ой, рябина кудрявая...», у яе слёзы на вачах з'явіліся. Жонкі кіраўнікоў — звычайныя жанчыны.

**— Вольга Браніславаўна, у вас ёсць асабісты жыццёвы дэвіз?**

— Мяне з дзяцінства вучылі: жыві сумленна, не крадзі, не падманвай. Чалавек павінен заставацца чалавекам. Галоўнае — добрасумленна і з дабром рабіць тое, што належыць.

**Гутарыла Таццяна ПАДАЛЯК.**

*Ходзяць чуткі, што...*

## ...У МЕТРО НЕ ХАПАЕ ПРАЯЗНЫХ

Напэўна, нішто так не нервуе чалавека, як нечаканая перашкода. А ў мінчан у пачатку месяца між тым была сур'ёзная прычына нервавацца: на станцыях метро адсутнічалі пластыкавыя праязныя. Адзінае, што заставалася пасажырам, гэта набыць звычайны жэтон, каб не спазніцца на працу. І гэта пры тым, што амаль у кожнага з іх на руках былі выкарыстаныя магнітныя карткі, залогавы кошт якіх быў аплачаны раней.

У вытворчым упраўленні транспарту і сувязі Мінгарвыканкама, куды мы звярнуліся па тлумачэнні, прызналі, што на сённяшні дзень праблема дэфіцыту пластыкавых праязных сапраўды існуе. Па-першае, па словах транспартнікаў, у ёй вінаватыя самі мінчане, якія штомесяц не вяртаюць гораду да 5 тысяч пластыкавых праязных (усяго, заўважым, у месяц рэалізуецца 16—17 тысяч пластыкавых картак). Праўда, застаецца не зусім зразумелым іх далейшы лёс: ці то іх пакідаюць сабе на памяць, ці то губляюць, ці то не лічаць неабходным эканоміць на залогавым кошце праязнога. Па-другое, з месяца ў месяц рэалізацыя пластыкавых праязных не толькі не змяншаецца, а, наадварот, расце. Аднак магутнасці Мінскага навукова-даследчага прыборабудаўнічага інстытута, які якраз і займаецца іх выпускам, не адпавядаюць патрэбнасцям сённяшняга дня. Менавіта таму Мінгарвыканкамам зараз разглядаецца магчымасць пераходу на пластыкавыя карткі імпартнага ўзору. Але гэта будзе заўтра, а пакуль што за пластыкавымі праязнымі прыйдзецца, хутчэй за ўсё, нам з вамі пабегаць...

**Надзея НІКАЛАЕВА.**



## СТАРОНКА ПАЎЛА ГЛОБЫ

### 6 ЛЮТАГА, ПЯТНІЦА

**РЭКАМЕНДАЦЫІ.** У першай палове дня захоўвайце асцярожнасць і не прымайце ніякіх важных рашэнняў. Пасляабедзенны час можна прысвяціць сацыяльным мерапрыемствам, юрыдычным справам і падпісанню сур'ёзных дакументаў. Не купляйце сёння новых рэчаў, таму што яны будуць хутка зношвацца. Добра займацца рамонтнымі работамі, уразаць замкі, ставіць сігналізацыю, рабіць агароджы. Вечар прысвяціце сям'і і дому. Паразважайце над сваім генеалагічным дрэвам, памедыцыруйце на партрэты продкаў. Гэта найлепшы час для рускай паравой лазні.

**АДЗЕННЕ.** Аддайце перавагу сцёртым і шэрым тонам адзення. Не рэкамендуецца ўсё яркае і стракатае.

**ПРЫМЕТЫ.** Знайсці прадметы з жоўтага металу — знак праяснення заблытаных сітуацый. Калі гадзіннік стаяў і ў гэты дзень раптам пайшоў, ці вы пастаянна чуеце бой гадзінніка — знак нечаканай удачы і шчасця. Згубіць гузік ці нешта з адзення — да пазбаўлення ад дрэнных знаёмстваў і ўсяго лішняга.

**СНЫ.** Лепш на бачыць сны ў гэты дзень. Калі вам іх сніцца шмат — значыць вы знаходзіцеся на памылковым шляху. Але ўбачыць сябе голым — знак таго, што ваш шлях правільны. Убачыць у сне белы колер — знак нябачнай апекі.

**МЕДЫЦЫНА.** Першая палова дня неспрыяльная для аперацый. Слабыя лёгкія, бронхі і рукі. Калі ў гэты дзень баляць косці грудзей ці падрабрынне, гэта выдае ўнутраныя праблемы чалавека. Добра лячыць печань, жоўцевы пузыр і крывятворную сістэму.

**Падрыхтавана да друку спецыяльна для «Звязды» астралагічным цэнтрам «АРБА».**

# Што ў нетрах тваіх, Беларусь?..

**Нават школьнік не будзе аспрэчваць той простай аксіёмы, што падмурак прамысловай базы прадпрыемстваў любой краіны (а адсюль вынікае, што і падмурак эканомікі) — гэта ўласная мінеральна-сыравінная база. Прасцей кажучы, запасы нафты, газу, будаўнічага каменю і пяску, іншых карысных выкапняў, што схаваныя ў нетрах. Дзяржавы, якія не маюць дастатковых уласных мінеральна-сыравінных рэсурсаў, але квітнеюць за кошт іх экспарту — хутчэй выключэнне, чым правіла.**

**У нетрах Беларусі сёння выяўлена звыш 4 тысяч радовішчаў мінеральнай сыравіны, якія па ступені разведанасці можна падзяліць на дзве групы. Першая група ўключае радовішчы з дэталёва разведанымі запасамі мінеральнай сыравіны, якія распрацоўваюцца або не распрацоўваюцца, але іх распрацоўка з'яўляецца тэхнічна магчымай і эканамічна мэтазгоднай у цяперашні час. Сюды ўваходзяць радовішчы паліўна-энергетычных рэсурсаў (нафта, буры вугаль, торф), аграхімічнай сыравіны (калійная і каменная соль, сапрапель, даламіт для вытворчасці вапнавых угнаенняў), разнастайных будаўнічых матэрыялаў (сыравіна для вытворчасці цэменту і вапны, будаўнічы і абліцовачны камень, пяскі будаўнічыя, сілікатныя, шкляныя, пясчана-гравійныя сумесі, гліны керамічныя, агнястойкія і для вытворчасці лёгкіх напаўняльнікаў), фармовачных пяскоў, прэсных і мінеральных падземных вод.**

**Другая група ўключае радовішчы, ступень вывучанасці якіх яшчэ не дазваляе праектаваць іх асваенне. Сюды ўваходзяць радовішчы жалезных руд, рэдкіх металаў, алюмініевай і содавай сыравіны, гаручых сланцаў, фасфарытаў, гіпсу, мінеральных валокнаў, бентанітавых глін і інш.**

**Беларускім навукова-даследчым геолагаразведачным інстытутам (БелНДГРІ) у рамках дзяржаўнай праграмы прыродакарыстання і аховы навакольнага асяроддзя была складзена справаздача адносна стану і перспектывы развіцця мінеральна-сыравіннай базы Беларусі. Яе асноўная мэта — даць ацэнку магчымасці перспектыўнага выкарыстання, а таксама замены ўвозімай сыравіны ўласнымі прыроднымі рэсурсамі. Больш падрабязна аб гэтым расказваюць супрацоўнікі БелНДГРІ.**

**ДАВЕДКА «ЗВЯЗДЫ».** *За кошт распрацоўкі ўласных радовішчаў мінеральнай сыравіны Беларусь забяспечвае гадавую вытворчасць каля 2,0 млн. тон нафты, 2,6 млн. тон вокісу калію, 0,28 млн. тон харчовай солі, 4,8 млн. тон даламітаў, 3,6 млн. куб. метраў будаўнічага каменю, 19,5 млн. куб. метраў будаўнічых пяскоў і пясчана-гравійных матэрыялаў, 3,4 млн. куб. метраў глiністай сыравіны для вытворчасці цэглы і лёгкіх напаўняльнікаў, 0,14 млн. тон шкляных пяскоў, 0,7 млн. тон фармовачных пяскоў, 3,4 млн. куб. м/суткі прэсных падземных вод, 900 куб. м/суткі мінеральных вод.*

**Расказвае загадчык аддзела цвёрдых карысных выкапняў Яўген НІКІЦІН:**

— Новыя эканамічныя ўмовы патрабуюць ацаніць магчымасць падрыхтоўкі на тэрыторыі Беларусі прамысловых запасаў нетрадыцыйных для нашай краіны відаў карысных выкапняў. Найперш жалезістых кварцытаў Аколаўскага радовішча ў Мінскай вобласці — адзінага такога буйнога радовішча ў нас. Зараз яно ўводзіцца ў разведку, зроблена першая свідравіна. Папярэднія тэхналагічныя выпрабаванні паказалі, што на ім можна атрымліваць металізаваныя акатышы, якія без доменнай вытворчасці могуць адразу ісці на пераплаўку. Запасы радовішча з сярэднім утрыманнем жалеза 23—27 працэнтаў ацэньваюцца прыкладна ў 517 млн. тон. Гэтыя жалезістыя кварцыты могуць стаць сыравінай для Беларускага металургічнага камбіната.

Аколаўскае радовішча — комплекснае, яго разведка можа цягнуцца не адзін год. Ужо выяўлена, што яно ўтрымлівае золата (каля 4 грамаў на тону пароды, што дазваляе гаварыць аб яго магчымай прамысловай здабычы). У Расіі, праўда, на падобных радовішчах, дзе здабываюць жалезістыя кварцыты шахтным спосабам, яно разам з пародай пакуль ідзе ў адвал, які разбіраецца як будаўнічы матэрыял. Зразумела, ёсць шчэбень (для дарожнага пакрыцця), у дастатковай колькасці выяўлены фосфар — трэба думаць, як яго здабываць. Не выключана, што пры далейшай разведцы будзе выяўлена яшчэ нешта. Радовішча павінна хапіць на 25—30 гадоў выкарыстання.

**— А якія прагнозы адносна запасаў іншых цвёрдых карысных выкапняў Беларусі?**

— Тых жа калійных соляў (разведана каля 6 млрд. тон сырых соляў) хопіць прыкладна на 100 гадоў. Прычым распрацоўваецца толькі Старобінскае радовішча, Петрыкаўскае мы яшчэ не чапалі. Прыкладна такія ж прагнозы і ў дачыненні да асноўных радовішчаў каменнай солі. Велізарнейшыя запасы даламітаў знаходзяцца ў Віцебскай вобласці, будаўнічага каменю — побач з Мікашэвічамі. У бліжэйшыя 2-3 гады за кошт правядзення дадатковых геолагаразведачных работ прамысловыя запасы будаўнічага каменю для вытворчасці шчэбню могуць быць падвоены. З гэтай мэтай у Брэсцкай вобласці завершана разведка Сітніцкага радовішча. Радовішча абліцовачнага каменю разведана ў раёне Слуцка — толькі летась скончылі папярэднія работы. Усяго гэтага, а таксама будматэрыялаў увогуле (пясчана-гравійнай сумесі, гліны) хопіць на некалькі пакаленняў. Іншая справа, што ў нас пакуль няма ўласных радовішчаў каляровых металаў, золата ў карэнным заляганні. Трэба ўкладваць грошы, шукаць.

**— А якую праблему ў сваёй галіне вы лічыце самай актуальнай?**

— Здабычу бытавога паліва, у прыватнасці мясцовага бурага вугалю. Таму перад геалагічнай службай стаіць задача разведкі і пераводу ў прамысловыя катэгорыі ўсіх запасаў Жыткавіцкага, Брынеўскага і Танежскага радовішчаў. У бліжэйшыя 5-6 гадоў можна было б прамысловыя запасы бурага вугалю давесці да 150—200 млн. тон, што дазволіць стварыць на іх базе магутнасці па здабычы ў аб'ёме 4-5 млн. тон у год і вырашыць праблему бытавога паліва.

Тарфяныя масівы размешчаны практычна ва ўсіх раёнах Беларусі, яны занімаюць каля 12 працэнтаў яе тэрыторыі. За ўсе гады здабыта звыш 1 млрд. тон торфу. Запасы складаюць каля 3 млрд. тон, з якіх даступнымі для распрацоўкі з'яўляюцца 588 млн. тон.

У рабоце зараз знаходзіцца каля 400 аб'ектаў па здабычы торфу. Штогод яго здабываецца каля 5 млн. тон.

**ДАВЕДКА «ЗВЯЗДЫ».** *У сувязі з адсутнасцю дастатковых уласных сыравінных баз ці з-за недастатковай разведанасці ўласных радовішчаў карысных выкапняў Беларусь штогод увозіць каля 10—12 млн. тон нафты і 70 тыс. тон вугалю з Расіі, 14,4 тыс. тон шкляных пяскоў, 200 тыс. тон фармовачных пяскоў высокіх марак і 70 тыс. тон глін фармовачных (бентанітавых) з Украіны, 6,1 тыс. тон даламіту для шкляной вытворчасці з Расіі, 13,5 тыс. тон гіпсу з Расіі і Украіны, 10 тыс. тон кааліну для фарфорава-фаянсавай прамысловасці і 2,4 млн. куб. метраў высокатрывалага шчэбню з Украіны, 105,4 тыс. тон цэменту з Украіны, Расіі і Казахстана і інш. Акрамя таго, Беларусь імпартуе газ, металы, мінеральныя ўгнаенні і інш.*

**Гаворыць вядучы навуковы супрацоўнік інстытута Андрэй СІНІЧКА:**

— На тэрыторыі Рэспублікі Беларусь толькі адна буйная нафтаносная структура — Прыпяцкі прагіб. Ёсць яшчэ Брэсцкая і Аршанская ўпадзіны, аднак там умовы для фарміравання і захавання нафты ацэньваюцца як верагодныя. Усяго ўжо адкрыта 61 радовішча, з якіх зараз распрацоўваюцца 40. Першая нафта была знойдзена ў 1964 годзе каля Рэчыцы, у 1965 годзе пачалася яе здабыча. З таго часу і па сённяшні дзень здабыта прыкладна 98 млн. тон «чорнага золата». Пік прыпаў на 1974—75 гг., калі штогод здабывалася амаль 8 млн. тон нафты. Потым энергія пластоў зрасходавалася, і пачалося падзенне здабычы. За апошнія 10 гадоў яе ўзровень кожны год складае каля 2 млн. тон. Так што, магчыма, хутка нафтавікі адзначаць своеасаблівы юбілей — здабычу 100-мільённай тоны нафты.

**— Наколькі нам хопіць уласнага «чорнага золата»?**

— Па прамысловых катэгорыях разведана каля 70 млн. тон нафты. Калі захоўваць цяперашні ўзровень здабычы — каля 2 млн. тон у год — хопіць на 30—35 гадоў. Праўда, для гэтага трэба адначасова штогод адкрываць і разведваць новыя радовішчы. За апошнія 10 гадоў буйных мы не знайшлі, але ўжо вядома радовішча з прагназіруемымі запасамі нафты ў некалькі мільёнаў тон, а ў большасці іншых радовішчаў — менш мільёна тон. Штогод з іх рэальна можна атрымліваць 20—30 тыс. тон нафты. Таму, каб захаваць агульную здабычу на ўзроўні каля 2 млн. тон і адначасова «расцягнуць» запасы «чорнага золата» хаця б на 50—60 гадоў, трэба з году ў год адкрываць новыя, няхай і дробныя, радовішчы. Плануецца, што ў год такімі работамі будзе здабывацца ў перспектыве 1—1,1 млн. тон нафты. Тады тэрмін жыцця галіны можна будзе падоўжыць да 2100 года.

**— З нафтай усё зразумела, а якая ў нас сітуацыя з газам?**

— З газам сітуацыя пакуль не зусім ясная. Пакуль у Беларусі адкрыта толькі адно буйное газакандэнсатнае радовішча з запасам газу прыкладна ў 1 млрд. куб. метраў. Але пакуль яно не распрацоўваецца, а знаходзіцца на кансервацыі. Таму гаварыць аб прамысловай здабычы газу ў краіне пакуль не даводзіцца. Але вядуцца разведачныя работы па пошуку газу ў салявых і міжсалявых адкладах.

**Расказвае вядучы навуковы супрацоўнік інстытута Васіль БУЧУРЫН:**

— Калі гаварыць увогуле аб рэсурсах падземных прэсных вод, дык трэба найперш адзначыць, што ўмовы ў колькасных адносінах у нас тут спрыяльныя нават на аддаленую перспектыву. Разведаныя запасы эксплуатацыйных рэсурсаў, тых, што ўжо выкарыстоўваюцца для канкрэтнага водазабору, складаюць 18,1 куб. км/год. Натуральныя рэсурсы, г. зн. тое, што кожны год узнаўляецца, складаюць яшчэ 15,9 куб. км/год. Беззваротнае ж водакарыстанне на ўсе мэты складае штогод па ўсёй краіне 1,9 куб. км/год. Гэта максімальная лічба за апошнія 10 гадоў з 1985-га па 1996-ты. У 1996 годзе, напрыклад, спажыванне склала толькі 1,4 куб. км/год.

**— Калі гаварыць пра ваду, многіх найперш цікавіць яе якасць...**

— Тут нас найперш хвалюе забруджанасць падземных вод. Хаця ў праектах стварэння і эксплуатацыі водазабораў такія патрабаванні закладзены, аднак яны, асабліва ў буйных гарадах, не выконваюцца. Забруджванне падземных вод больш небяспечнае, чым паверхневых, асабліва для будучых пакаленняў. Калі з паверхневых вадатокаў небяспеку ўсё ж можна выдаліць, дык падземныя воды нагадваюць губку, якую нельга «выціснуць». Прадукты жыццядзейнасці чалавека, трапіўшы ў падземныя воды, могуць выклікаць размнажэнне небяспечных мікраарганізмаў, якое потым цяжка спыніць. Дзякуй Богу, у нас такія выпадкі пакуль не рэгістраваліся. За гэтым і наогул за якасцю вады на розных гарызонтах, за свідравінамі ў насназіраюць каля 2 тыс. спецыяльных стацыянарных пунктаў геалагічнай службы.

**— Нашы нетры багатыя не толькі на прэсныя воды?**

— Так, ужо дзейнічае каля 200 свідравін па здабычы мінеральнай вады. Яны выкарыстоўваюцца як у лячэбных, так і сталовых мэтах. Акрамя таго, у раёне нафтавых радовішчаў у Прыпяцкім прагібе знойдзены высокамінералізаваныя воды (расолы). Яны ўтрымліваюць бром, ёд, рэдказямельныя элементы і могуць разглядацца ў якасці сыравіны для атрымання брому, ёду і рэдкіх металаў. Ужо ўведзена ў эксплуатацыю вопытна-прамысловая ўстаноўка. Перспектывы здабычы і запасы гэтых кампанентаў дазваляюць меркаваць, што яны значна перавышаюць патрэбы Беларусі. Не выключана, што можа паўстаць пытанне аб іх экспарце.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

# РЭПАРЦЁР

*ПЫТАЛЬНІК*

## УЛАДУ ТРЭБА ВЕДАЦЬ У ТВАР...



***Паважаная рэдакцыя!***

***Ці не магла б «Звязда» паведаміць на сваіх старонках аб тым, хто і ў якія гады ўзначальваў у Беларусі вышэйшы выканаўчы і распарадчы орган дзяржаўнай улады — урад рэспублікі?***

**Андрэй ВАСЮЧЭНКА,** г. Віцебск.

Вышэйшы выканаўчы і распарадчы орган улады ў Беларусі не адзін раз мяняў назву. Думаецца, нашым чытачам гэта цікава будзе ведаць. Так, з 26 лістапада (9 снежня па новаму стылю) 1917 года да 14 красавіка 1918-га ім быў Абласны Савет Народных Камісараў Заходняй вобласці і фронту, а ўзначальваў яго спачатку К. Ландэр, а са студзеня 1918 года — М. Калмановіч. Другі з'езд Саветаў Заходняй вобласці (ён праходзіў 10—14 красавіка 1918-га) утварыў Абласны выканаўчы камітэт Заходняй вобласці і фронту, на чале якога стаяў А. Мяснікян (Мяснікоў). З 1 студзеня 1919 года да 3 лютага таго ж года існаваў Часовы рэвалюцыйны рабоча-сялянскі ўрад пад кіраўніцтвам З. Жылуновіча (Цішкі Гартнага), а з 3 лютага да 28 лютага 1919-га — Вялікі Прэзідыум ЦВК Беларусі — Савет Камісараў на чале з А. Мяснікянам. На змену яму прыходзілі: Савет Народных Камісараў Літоўска-Беларускай рэспублікі (старшыня В. Міцкявічус-Капсукас), Мінскі губрэўком (першы дзейнічаў на працягу лютага—ліпеня 1919 года; другі — ліпеня—жніўня), Ваенна-рэвалюцыйны камітэт (ліпень—снежань 1920-га, старшыня А. Чарвякоў).

У адпаведнасці з дапаўненнямі да Канстытуцыі Беларусі 1920 года, прынятымі другім з'ездам Саветаў Беларусі, у снежні таго ж года быў створаны Савет Народных Камісараў. Абавязкі старшыні Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта і старшыні Савета Народных Камісараў, а таксама народнага камісара па замежных справах да сакавіка 1924 года выконвала адна і тая ж асоба: ім быў усё той жа Аляксандр Чарвякоў. СНК БССР праіснаваў да 1946 года. Савет узначальвалі: Я. Адамовіч (17 сакавіка 1924 — 6 мая 1927 гадоў), М. Галадзед (7 мая 1927 — 30 мая 1937 гадоў), А. Кавалёў (8 верасня 1937 — 27 ліпеня 1938 гадоў), К. Кісялёў (27 ліпеня 1938 — 28 чэрвеня 1940 гадоў), І. Былінскі (28 чэрвеня 1940 — 7 лютага 1944 гадоў), П. Панамарэнка (з 7 лютага 1944-га)...

У сакавіку 1946 года Савет Народных Камісараў Беларускай ССР быў пераўтвораны ў Савет Міністраў БССР. Старшынямі яго былі: П. Панамарэнка (1946—1948 гады), А. Кляшчоў (1948—1953 гады), К. Мазураў (1953—1956 гады), М. Аўхімовіч (1956—1959 гады), Ц. Кісялёў (1959—1978 гады), А. Аксёнаў (1978—1983 гады), У. Бровікаў (1983—1986 гады), М. Кавалёў (1986—1990 гады), В. Кебіч (1990—1994 гады), М. Чыгір (1994—1996 гады), С. Лінг (з лістапада 1996 года).

## НАШ ЛЁС НЕ Ў НАШЫХ РУКАХ, А НА НАШЫХ ДАЛОНЯХ?..



***Я ніколі не верыла бабкам-шаптухам, цыганкам, што варожаць на вакзалах і ў іншых мнагалюдных месцах, знахаркам і розным прадказальнікам чалавечага лёсу. Але аднойчы адважылася і згадзілася на ўгаворы настойлівай цыганкі паваражыць, што мяне чакае ў будучым. Яна адразу схапіла маю левую руку, пачала вадзіць па ёй сваімі пальцамі, пільна прыглядацца да кожнай на яе лініі-рысачкі, нешта шаптаць, а потым выдала такое, што я аж за галаву схапілася і адно падумала: верыць ці не верыць?***

***Паважаны «Пытальнік», адкажы, калі ласка, няўжо па лініях на далоні можна даведацца пра ранейшае жыццё чалавека, прадказаць яго далейшы лёс і тым самым вынесці канчатковы прысуд, якім бы жорсткім і няўмольным ён ні быў?***

**Валянціна К.,** г. Бабруйск.

Паважаная Валянціна, што адказаць на ваша, як кажуць, лёсаноснае пытанне? Магчыма цыганка, з якой вас звяла тая выпадковая сустрэча, і ведае нейкія «сакрэты» хірамантыі. А хутчэй за ўсё, вы малая ёй заплацілі за яе «работу» — вось яна і выдала вам такую «чарнату».

У «Большой Советской Энциклопедии», выдадзенай у 1957 годзе (у БСЭ, выпушчанай у 1978 г., гэтага слова нават няма), дадзена такое тлумачэнне: «Хірамантыя (ад грэчаскага cheir — рука + manteia — прароцтва, варажба) — варажба па лініях і бугарках на далонях рук і «прадказанне» ўсякімі шарлатанамі будучай долі чалавека, а таксама вызначэнне рысаў яго характару, схільнасцяў і г. д. Разнастайныя спробы сістэматызаваць такую варажбу і падвесці пад яе тэарэтычнае абгрунтаванне не мелі нічога агульнага з навукай».

Такім чынам, як робіцца выснова ў БСЭ, хірамантыя з'яўляецца адной з грубейшых формаў праявы забабонаў і прымхаў.

Магчыма, усё яно менавіта так: хірамантыя — гэта адзін з варыянтаў «пудрання мазгоў», асабліва даверлівым людзям, і аспрэчваць думку вучоных, даказваць ім нешта адваротнае вельмі нялёгка, амаль бессэнсоўна. Але ў такім разе, чаму ж самыя вялікія розумы чалавецтва — Піфагор, Арыстоцель, Дэмакрыт, Юлій Цэзар, Авіцэна, Дзюма, Бальзак лічылі гэту містычную навуку дастойным сваім заняткам?

Больш таго, калі паглядзець на нашы далоні, то на іх разбягаецца ў розных напрамках і перакрыжоўваецца мноства ліній. Ёсць тут асноўныя лініі: галавы (розуму), сэрца (любові і дабрыні), жыцця (здароўя, жыццёвых сіл) і, у рэшце рэшт, лінія лёсу, прадвызначэнне. У іх сувязі з больш дробнымі, кароткімі лініямі і складваецца малюнак лёсу чалавека. Вось па такому «пейзажу» на руцэ спрактыкаваны, вопытны хірамант можа дакладна назваць год вашага нараджэння і вашай... смерці.

Менавіта такімі дакладнымі прадказаннямі па руцэ была вызначана гвалтоўная смерць Пушкіна, Бухарына, Мураўёва-Апостала, Махатмы Гандзі, Джона Кенэдзі, іншых вялікіх людзей.

Зразумела, прагнозы бываюць і светлыя, жыццярадасныя.

Напрыклад, адна з вядомых хіролагаў Германіі, 50-гадовая Дагмар Вакерман, што жыве ў Дзюсельдорфе, на працягу 30-хвіліннага сеанса, які каштуе 200 нямецкіх марак, так пракаменціравала руку канцлера Гельмута Коля: «Яго не цікавяць грошы і дабрабыт. Галоўнае — улада і ажыццяўленне сваіх жаданняў».

У той жа час варта асцерагацца «сапраўдных» шарлатанаў: няправільная трактоўка ліній лёсу можа прынесці чалавеку сумны, няешчаслівы паварот у жыцці.

# Заключэнне Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь

**(Заканчэнне. Пачатак на 5-й стар.)**

веня 1996 г., 9 верасня 1996 г., 16 ліпеня 1997 г., 6 кастрычніка 1997 г. (у далейшым — Палажэнне) вырашаны, у прыватнасці, пытанні выдачы ліцэнзіі на права заняцця прыватнай натарыяльнай дзейнасцю, парадку ўтварэння і дзейнасці камісіі па пытаннях выдачы ліцэнзій, страхавання прыватнай натарыяльнай дзейнасці, арганізацыі работы прыватнага натарыуса, вызначаны правы і абавязкі прыватнага натарыуса, віды натарыяльных дзеянняў, якія не можа ўчыніць прыватны натарыус.

У падпункце 9.1 Палажэння (у рэдакцыі ад 25 студзеня 1994 г.), як і ў Парадку, прадугледжвалася, што за ўчыненне натарыяльных дзеянняў, складанне праектаў дакументаў прыватны натарыус спаганяе з грамадзян і юрыдычных асоб натарыяльны збор, які адпавядае памерам дзяржаўнай пошліны і тарыфам за аказанне дадатковых платных прававых паслуг, устаноўленым за ўчыненне аналагічных дзеянняў у дзяржаўнай натарыяльнай канторы.

У абзацах першым і другім падпункта 10.2 Палажэння прадугледжана, што прыватны натарыус, які працуе індывідуальна, павінен выплачваць падатак з сум перавышэння даходаў, атрыманых ад натарыяльнай дзейнасці, над расходамі па стаўках, якія прадугледжаны Законам «Аб падаходным падатку з грамадзян». Прыватныя натарыусы, якія стварылі натарыяльнае бюро, выплачваюць падаткі ў адпаведнасці з заканадаўствам, якое рэгламентуе падаткаабкладанне прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў.

У падпункце 10.3 Палажэння ўстаноўлена, што даход прыватнага натарыуса пасля выплаты падаткаў і іншых абавязковых плацяжоў застаецца ў яго распараджэнні.

Вышэйшы гаспадарчы суд звярнуўся ў Канстытуцыйны суд з прапановай аб праверцы канстытуцыйнасці вышэйназваных пастаноў Вярхоўнага Савета, пастаноў Савета Міністраў, Парадку, а таксама Палажэння з улікам змяненняў і дапаўненняў, якія ўнесены ў яго да выдання Дэкрэта Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 3 мая 1997 г. № 12, у тым ліку правамернасці ўвядзення паняцця «натарыяльны збор». Вышэйшы гаспадарчы суд указаў, што норма, якая ўтрымліваецца ў актах Міністэрства юстыцыі і Міністэрства фінансаў аб спагнанні прыватнымі натарыусамі натарыяльнага збору, які адпавядае памерам дзяржаўнай пошліны і тарыфам за аказанне дадатковых платных прававых паслуг, прадугледжаным за ўчыненне аналагічных дзеянняў у дзяржаўнай натарыяльнай канторы, уступае ў супярэчнасць з законамі «Аб дзяржаўным натарыяце», «Аб дзяржаўнай пошліне», «Аб падатках і зборах, якія бяруцца ў бюджэт Рэспублікі Беларусь». Згодна з гэтымі законамі, на думку Вышэйшага гаспадарчага суда, дзяржаўная пошліна павінна паступаць ў даход бюджэту, а не ў даход прыватнага натарыуса, як гэта прадугледжана ў нарматыўных актах Міністэрства юстыцыі і Міністэрства фінансаў.

Заслухаўшы прадстаўнікоў бакоў, сведак, вывучыўшы матэрыялы справы, прааналізаваўшы палажэнні Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1978 года, дзеючай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, законаў і іншых нарматыўных актаў, Канстытуцыйны суд устанавіў наступнае.

У адпаведнасці з часткай другой артыкула 97 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1978 года, якая дзейнічала ў перыяд прыняцця правяраемых пастаноў, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь як вышэйшы орган дзяржаўнай улады быў правамоцны прыняць да свайго разгляду і вырашыць любое пытанне, якое знаходзілася ў веданні Рэспублікі Беларусь.

Згодна з часткамі пятай і шостай артыкула 97 Канстытуцыі 1978 года Вярхоўны Савет меў права прымаць законы і пастановы. Законы і пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прымаліся большасцю галасоў ад агульнай колькасці народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь. У адпаведнасці з артыкулам 108 Канстытуцыі як законы, так і іншыя акты, прынятыя Вярхоўным Саветам, падпісваліся Старшынёю Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Канстытуцыйны суд прыходзіць да высновы, што Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, разгледзеўшы пытанні арганізацыі прыватнай натарыяльнай практыкі і прыняўшы маючыя ў дадзеным выпадку нарматыўны характар пастановы ад 26 лістапада 1992 г. «Аб арганізацыі ў горадзе Мінску прыватнай натарыяльнай практыкі» і ад 18 студзеня 1994 г. «Аб унясенні змяненняў у Пастанову Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб арганізацыі ў горадзе Мінску прыватнай натарыяльнай практыкі», дзейнічаў у межах сваёй кампетэнцыі.

Згодна з артыкуламі 115 і 118 Канстытуцыі 1978 года, Савет Міністраў, як вышэйшы выканаўчы і распарадчы орган быў правамоцны вырашаць усе пытанні дзяржаўнага кіравання, якія аднесены да ведання Рэспублікі Беларусь, пакольку яны не ўваходзілі, згодна з Канстытуцыяй, у кампетэнцыю Вярхоўнага Савета і яго Прэзідыума, Старшыні Вярхоўнага Савета. У адпаведнасці з артыкулам 120 Канстытуцыі 1978 года Савет Міністраў на аснове і з мэтай выканання законаў Рэспублікі Беларусь, іншых рашэнняў Вярхоўнага Савета меў права выдаваць пастановы і распараджэнні, арганізоўваць і правяраць іх выкананне.

З улікам выкладзенага Канстытуцыйны суд прыходзіць да высновы, што пастановы Савета Міністраў ад 15 студзеня 1993 года № 20 «Аб арганізацыі ў г.Мінску ў парадку эксперыменту прыватнай натарыяльнай практыкі» і ад 5 сакавіка 1994 г. № 126 «Аб арганізацыі ў рэспубліцы ў парадку эксперыменту прыватнай натарыяльнай практыкі», якімі Савет Міністраў даручыў Міністэрству юстыцыі забяспечыць ажыццяўленне ў парадку эксперыменту прыватнай натарыяльнай практыкі, сумесна з Міністэрствам фінансаў зацвердзіць парадак выдачы і выкарыстання ліцэнзій на заняцце прыватнай натарыяльнай практыкай на перыяд правядзення эксперыменту ў горадзе Мінску, а таксама пры правядзенні эксперыменту ў рэспубліцы вызначыць па ўзгадненню з Міністэрствам фінансаў і выканкамамі мясцовых Саветаў месцы яго правядзення, колькасць натарыяльных кантор і ліцэнзій на заняцце прыватнай натарыяльнай практыкай, прыняты ў межах кампетэнцыі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Разам з тым Канстытуцыйны суд адзначае, што Саветам Міністраў не ў поўнай меры выкананы даручэнні Вярхоўнага Савета аб вызначэнні парадку дзейнасці натарыяльных кантор, што займаюцца прыватнай натарыяльнай практыкай, якія ўтрымліваліся ў правяраемых пастановах. На думку Суда, менавіта Савету Міністраў, зыходзячы з дадзеных даручэнняў, належала ўрэгуляваць ва ўстаноўленым парадку, у тым ліку пры неабходнасці і шляхам унясення адпаведных законапраектаў у Вярхоўны Савет, адносіны па залічэнню абавязковых плацяжоў у бюджэт, вызначыць парадак аплаты працы прыватных натарыусаў, вырашыць пытанні пакрыцця іх матэрыяльных затрат (арэнда памяшканняў, набыццё, абслугоўванне і рамонт аргтэхнікі, мэблі, канцылярскіх тавараў) і інш.

У адпаведнасці з часткай трэцяй артыкула 122 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1978 года міністэрствы і дзяржаўныя камітэты Рэспублікі Беларусь у межах сваёй кампетэнцыі мелі права выдаваць акты на аснове і з мэтай выканання законаў Рэспублікі Беларусь, іншых рашэнняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, пастаноў і распараджэнняў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, арганізоўваць і правяраць іх выкананне.

Згодна з пунктам 5.7 Палажэння аб Міністэрстве юстыцыі, зацверджанага пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 25 лістапада 1992 года № 408, якое дзейнічала на дзень прыняцця правяраемых нарматыўных актаў, у кампетэнцыю Міністэрства юстыцыі ўваходзіла кіраўніцтва работай органаў натарыята, праверка, аналіз і абагульненне іх дзейнасці, прыняцце мераў па яе паляпшэнню. У адпаведнасці з пунктам 9.2 указанага Палажэння Міністэрства юстыцыі ў межах сваёй кампетэнцыі і на падставе дзеючага заканадаўства мела права выдаваць акты па пытаннях учынення натарыяльных дзеянняў, абавязковыя для выканання дзяржаўнымі органамі, грамадскімі аб'яднаннямі, службовымі асобамі, усімі грамадзянамі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

У адпаведнасці з пунктам 8.6 Палажэння аб Міністэрстве фінансаў, зацверджанага пастановай Савета Міністраў ад 7 жніўня 1972 г. № 243, якое дзейнічала на дзень прыняцця правяраемых нарматыўных актаў, у кампетэнцыю Міністэрства фінансаў уваходзіла арганізацыя работы па вылічэнню і спагнанню дзяржаўных і мясцовых падаткаў і збораў з устаноў, прадпрыемстваў, арганізацый і насельніцтва, плацяжоў з прыбытку дзяржаўных прадпрыемстваў і арганізацый, падатку з абароту і іншых плацяжоў у бюджэт, а таксама кіраўніцтва гэтай работай. Згодна з пунктам 15 гэтага Палажэння, міністр фінансаў у межах кампетэнцыі міністэрства меў права выдаваць на падставе і з мэтай выканання дзеючых законаў Рэспублікі Беларусь, пастаноў і распараджэнняў Савета Міністраў загады і інструкцыі і даваць указанні, абавязковыя для выканання мясцовымі фінансавымі і іншымі ўстановамі і арганізацыямі сістэмы міністэрства, і правяраць іх выкананне.

На падставе пункта 9.3 Палажэння аб Міністэрстве юстыцыі і пункта 15 Палажэння аб Міністэрстве фінансаў кіраўнікі гэтых міністэрстваў у неабходных выпадках мелі права выдаваць сумесныя загады і інструкцыі.

Канстытуцыйны суд лічыць, што на аснове і з мэтай выканання пастаноў Вярхоўнага Савета ад 26 лістапада 1992 г. і 18 студзеня 1994 г., пастаноў Савета Міністраў ад 15 студзеня 1993 г. № 20 і 5 сакавіка 1994 г. № 126 Міністэрства юстыцыі і Міністэрства фінансаў былі правамоцныя рэгуляваць пытанні арганізацыі і ажыццяўлення прыватнай натарыяльнай дзейнасці на перыяд правядзення эксперыменту толькі ў межах прадастаўленай ім кампетэнцыі.

Аднак у Парадку, а затым і ў Палажэнні было прадугледжана, што за ўчыненне натарыяльных дзеянняў, складанне праектаў дакументаў натарыус, які займаецца прыватнай натарыяльнай дзейнасцю, спаганяе з грамадзян і юрыдычных асоб натарыяльны збор, які адпавядае памерам дзяржаўнай пошліны і тарыфам за аказанне дадатковых платных прававых паслуг, якія прадугледжаны за ўчыненне аналагічных дзеянняў у дзяржаўнай натарыяльнай канторы. У Палажэнні, акрамя таго, указвалася, што даход прыватнага натарыуса пасля выплаты падаткаў і іншых абавязковых выплат застаецца ў яго распараджэнні. Канстытуцыйны суд прыходзіць да высновы, што ўказаныя нормы не адпавядалі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1978 года, не адпавядаюць дзеючай Канстытуцыі і законам «Аб падатках і зборах, якія бяруцца ў бюджэт Рэспублікі Беларусь», «Аб дзяржаўным натарыяце», «Аб дзяржаўнай пошліне».

У адпаведнасці з пунктам 14 артыкула 97 Канстытуцыі 1978 года ажыццяўленне заканадаўчага рэгулявання бюджэтна-фінансавай сістэмы, падаткаабкладання адносілася да выключнага ведання Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Аналагічны парадак вырашэння гэтых пытанняў быў прадугледжаны і ў прынятай 15 сакавіка 1994 года Канстытуцыі. Згодна з пунктам 11 артыкула 83 Канстытуцыі правам устанаўліваць рэспубліканскія падаткі і зборы валодаў Вярхоўны Савет. Згодна з артыкулам 5 Закона ад 15 сакавіка 1994 года «Аб парадку ўступлення ў сілу Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь» законы і іншыя нарматыўныя акты да правядзення іх у адпаведнасць з Канстытуцыяй павінны былі дзейнічаць толькі ў той частцы, у якой яны не супярэчылі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. У адпаведнасці з Пастановай Прэзідыума Вярхоўнага Савета ад 13 красавіка 1994 г. «Аб першачарговых мерах, накіраваных на рэалізацыю Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь» Савет Міністраў павінен быў забяспечыць перагляд і адмену міністэрствамі і ведамствамі нарматыўных актаў, якія супярэчылі новай Канстытуцыі. Міністэрствы і ведамствы таксама абавязаны былі самастойна прыняць меры па забеспячэнню вяршэнства Канстытуцыі і прывядзенню ў адпаведнасць з ёй раней прынятых імі нарматыўных актаў. Аднак ні ўрад, ні Міністэрства юстыцыі не прынялі неабходных мераў па належнаму выкананню гэтых патрабаванняў, у тым ліку па прывядзенню ў адпаведнасць з прынятай 15 сакавіка 1994 г. Канстытуцыяй нарматыўных актаў, якія рэгулююць прыватную натарыяльную дзейнасць.

Прынцыпы і парадак прававога рэгулявання падаткаабкладання не змяніліся і ў прынятай на рэспубліканскім рэферэндуме Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 года са змяненнямі і дапаўненнямі. У адпаведнасці з пунктам другім артыкула 97 дзеючай Канстытуцыі ўстанаўленне рэспубліканскіх падаткаў і збораў ажыццяўляецца шляхам прыняцця законаў.

Законам «Аб падатках і зборах, якія бяруцца ў бюджэт Рэспублікі Беларусь» дзяржаўная пошліна аднесена да агульнадзяржаўных падаткаў і збораў, якія ўстанаўліваюцца законам, і ў адпаведнасці з артыкулам 2 названага закона ўсе сумы падаткаў і збораў залічваюцца ў бюджэт Рэспублікі Беларусь. Аб тым, што даходы бюджэту фарміруюцца за кошт падаткаў, якія вызначаюцца законам, іншых абавязковых плацяжоў, а таксама іншых паступленняў, указана і ў артыкуле 133 Канстытуцыі.

Згодна з пунктам 2 пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 26 лістапада 1992 г. натарыусы, якія займаюцца прыватнай натарыяльнай дзейнасцю, кіруюцца ў сваёй дзейнасці Законам «Аб дзяржаўным натарыяце» і іншымі заканадаўчымі актамі, якія выдаюцца ў адпаведнасці з ім, валодаюць роўнымі з дзяржаўнымі натарыусамі правамі і абавязкамі. У пастанове ад 26 лістапада 1992 г., іншых заканадаўчых актах якіх-небудзь выключэнняў з дзеючага парадку спагнання дзяржаўнай пошліны і яе паступлення ў бюджэт за ўчыненне натарыяльных дзеянняў, магчымасць яе замены натарыяльным зборам пры ажыццяўленні прыватнай натарыяльнай дзейнасці Вярхоўны Савет не ўстанавіў. Пры разглядзе Вярхоўным Саветам 26 лістапада 1992 года пытання аб правядзенні эксперыменту ў абгрунтаванне прыняцця пастановы ўказвалася, што дзяржаўная пошліна будзе спаганяцца прыватнымі натарыусамі і будзе паступаць у бюджэт. У сувязі з гэтым аплата за натарыяльныя дзеянні, якія ўчыняюцца прыватнымі натарыусамі, меркавалася быць больш высокай, чым за аналагічныя дзеянні натарыусаў дзяржаўных натарыяльных кантор (Бюлетэнь дзесятай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання, № 37, с. 41). Пры прыняцці Вярхоўным Саветам пастановы 18 студзеня 1994 года аб распаўсюджванні эксперыменту на ўсю тэрыторыю Рэспублікі Беларусь, указвалася, што пры ажыццяўленні прыватнай натарыяльнай дзейнасці ў даход дзяржавы паступалі не толькі падаткі, але і пошліны (Бюлетэнь трынаццатай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання, № 45, с.3).

Артыкулам 34 Закона «Аб дзяржаўным натарыяце» ўстаноўлена, што за ўчыненне натарыяльных дзеянняў дзяржаўнымі натарыяльнымі канторамі і выканаўчымі камітэтамі гарадскіх, пасялковых і сельскіх Саветаў дэпутатаў, а таксама за складанне праектаў здзелак, заяў, падрыхтоўку копій дакументаў, выпісак з іх, выдачу дублікатаў дакументаў з зацікаўленых асоб спаганяецца дзяржаўная пошліна ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам.

Згодна з артыкулам 2 Закона «Аб дзяржаўнай пошліне» аб'ектамі абкладання пошлінай з'яўляюцца натарыяльныя дзеянні, якія ўчыняюцца дзяржаўнымі натарыяльнымі канторамі і мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі, а таксама выдача дублікатаў натарыяльна засведчаных дакументаў, складанне мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі праектаў здзелак і заяў, падрыхтоўка копій дакументаў і выпісак з іх. У адпаведнасці з артыкулам 6 гэтага закона дзяржаўная пошліна паступае ў мясцовы бюджэт, акрамя дзяржаўнай пошліны за выдачу пасведчанняў аб праве ўласнасці на аб'екты рэспубліканскай уласнасці, якая залічваецца ў даход рэспубліканскага бюджэту.

У абзацы восьмым Парадку і ў падпункце 10.2 Палажэння ўстаноўлены парадак падаткаабкладання прыватных натарыусаў, згодна з якім прыватны натарыус, які працуе індывідуальна, павінен выплачваць падатак з сум перавышэння даходаў, атрыманых ад натарыяльнай дзейнасці, над расходамі па стаўках, якія прадугледжаны Законам «Аб падаходным падатку з грамадзян», а прыватныя натарыусы, якія стварылі свае натарыяльныя бюро, выплачваюць падаткі ў адпаведнасці з заканадаўствам, якое рэгламентуе падаткаабкладанне прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў.

На думку Канстытуцыйнага суда, аднясенне прыватнай натарыяльнай дзейнасці ў пытаннях падаткаабкладання да прадпрымальніцкай дзейнасці не заснавана на пастановах Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 26 лістапада 1992 г. і ад 18 студзеня 1994 г., іншых заканадаўчых актах.

У адпаведнасці з артыкулам 1 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб прадпрымальніцтве ў Рэспубліцы Беларусь» прадпрымальніцтва (прадпрымальніцкая дзейнасць) — самастойная, ініцыятыўная дзейнасць грамадзян, якая накіравана на атрыманне прыбытку або асабістага даходу і ажыццяўляецца ад свайго імя, на сваю рызыку і пад сваю маёмасную адказнасць або ад імя і пад маёмасную адказнасць юрыдычнай асобы (прадпрыемства).

Суд лічыць, што натарыяльная дзейнасць з'яўляецца публічна-прававой, натарыус дзейнічае ад імя дзяржавы, мае пячатку з адбіткам Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь. Дзеянні, якія ўчыняюцца натарыусам, гарантуюцца і абараняюцца дзяржавай. Прыватны натарыус не мае права ўчыняць натарыяльныя дзеянні на сваё імя і ад свайго імя, на імя і ад імя сваіх сваякоў, а таксама на імя і ад імя работнікаў свайго натарыяльнага бюро.

Такім чынам, Міністэрства юстыцыі і Міністэрства фінансаў, устанавіўшы парадак падаткаабкладання даходаў ад прыватнай натарыяльнай дзейнасці як ад прадпрымальніцкай дзейнасці і фактычна замяніўшы спагнанне дзяржаўнай пошліны ў бюджэт за ўчыненне натарыяльных дзеянняў на спагнанне натарыяльнага збору ў даход прыватнага натарыуса, выйшлі за межы сваёй кампетэнцыі.

Канстытуцыйны суд таксама звяртае ўвагу, што Міністэрства юстыцыі і Міністэрства фінансаў зацвердзілі Парадак і Палажэнне яшчэ да прыняцця Саветам Міністраў адпаведных пастаноў ад 15 студзеня 1993 года і ад 5 сакавіка 1994 года.

З улікам вышэйпададзенага Канстытуцыйны суд прыходзіць да высновы, што нормы, якія ўтрымліваюцца ў абзацах 8, 9 Парадку выдачы, выкарыстання ліцэнзіі і заняцця прыватнай натарыяльнай дзейнасцю на перыяд правядзення эксперыменту ў горадзе Мінску, а таксама ў падпункце 9.1, абзацах першым і другім падпункта 10.2 і падпункце 10.3 Палажэння аб парадку выдачы ліцэнзіі на права заняцця прыватнай натарыяльнай дзейнасцю і правядзення эксперыменту гэтага віду дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь у рэдакцыі ад 25 студзеня 1994 г., не адпавядалі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1978 года і не адпавядаюць дзеючай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і законам Рэспублікі Беларусь.

Канстытуцыйны суд таксама адзначае, што Вярхоўны Савет і Савет Міністраў не ажыццяўлялі належнага кантролю за выкананнем прынятых імі рашэнняў аб правядзенні эксперыменту ў горадзе Мінску, а затым і на ўсёй тэрыторыі рэспублікі, а таксама за законнасцю прынятых Міністэрствам юстыцыі і Міністэрствам фінансаў нарматыўных актаў. Пытанні спагнання натарыяльнага збору ўзамен дзяржаўнай пошліны, законнасці падаткаабкладання прыватных натарыусаў не былі прадметам адпаведнага кантролю з боку падатковых органаў.

Органы, маючыя дачыненне да правядзення эксперыменту, своечасова не ставілі ва ўстаноўленым парадку перад правамоцнымі органамі, у тым ліку перад Канстытуцыйным судом, пытанне аб праверцы канстытуцыйнасці нарматыўных актаў, якія рэгулююць прыватную натарыяльную дзейнасць.

**На падставе выкладзенага, кіруючыся артыкулам 116 Канстытуцыі, артыкуламі 5, 6, 9, 34, 36, 38, 40 і 43 Закона «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь», Канстытуцыйны суд**

**ВЫРАШЫЎ:**

1. Прызнаць пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 26 лістапада 1992 г. «Аб арганізацыі ў горадзе Мінску прыватнай натарыяльнай практыкі» і ад 18 студзеня 1994 г. «Аб унясенні змяненняў у Пастанову Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб арганізацыі ў горадзе Мінску прыватнай натарыяльнай практыкі» адпавядаючымі Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь.

2. Прызнаць пастановы Савета Міністраў ад 15 студзеня 1993 г. № 20 «Аб арганізацыі ў г. Мінску ў парадку эксперыменту прыватнай натарыяльнай практыкі» і ад 5 сакавіка 1994 г. № 126 «Аб арганізацыі ў рэспубліцы ў парадку эксперыменту прыватнай натарыяльнай практыкі» ў частцы неналежнага выканання даручэнняў Вярхоўнага Савета аб вызначэнні парадку дзейнасці натарыяльных кантор, якія ажыццяўляюць прыватную натарыяльную дзейнасць, не адпавядаючымі пастановам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 26 лістапада 1992 г. «Аб арганізацыі ў горадзе Мінску прыватнай натарыяльнай практыкі» і ад 18 студзеня 1994 г. «Аб унясенні змяненняў у Пастанову Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб арганізацыі ў горадзе Мінску прыватнай натарыяльнай практыкі».

3. Прызнаць не адпавядаючымі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1978 года, дзеючай Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь:

абзац восьмы Парадку выдачы, выкарыстання ліцэнзіі і заняцця прыватнай натарыяльнай дзейнасцю на перыяд правядзення эксперыменту ў горадзе Мінску, зацверджанага Міністэрствам юстыцыі 21 снежня 1992 года № 01-15/3733 і Міністэрствам фінансаў 22 снежня 1992 года № 13-10-5/3940 у частцы ўстаноўленага парадку падаткаабкладання натарыусаў, якія займаюцца прыватнай натарыяльнай дзейнасцю, а таксама абзац дзевяты ўказанага Парадку;

падпункты 9.1, абзацы першы і другі падпункта 10.2 і падпункт 10.3 Палажэння аб парадку выдачы ліцэнзіі на права заняцця прыватнай натарыяльнай дзейнасцю і правядзення эксперыменту гэтага віду дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь, зацверджанага Міністэрствам юстыцыі Рэспублікі Беларусь у рэдакцыі ад 25 студзеня 1994 года.

Прызнаць гэтыя нормы не маючымі юрыдычнай сілы з дня іх прыняцця.

4. Прапанаваць:

Нацыянальнаму сходу Рэспублікі Беларусь паскорыць прыняцце Закона «Аб натарыяце»;

кампетэнтным органам дзяржаўнай улады вырашыць пытанні, звязаныя з падаткаабкладаннем прыватных натарыусаў, пераразмеркаваннем дзяржаўнай пошліны з дня пачатку правядзення эксперыменту, з улікам гэтага Заключэння, у тым ліку і зыходзячы з адказнасці дзяржаўных органаў, маючых дачыненне да яго правядзення, за незабеспячэнне належнага прававога рэгулявання парадку арганізацыі эксперыменту і дзейнасці прыватных натарыусаў.

5. Апублікаваць гэта Заключэнне ў дзесяцідзённы тэрмін з дня прыняцця ў «Народнай газеце», «Звяздзе», і ў тых выданнях, дзе былі апублікаваны правяраемыя нарматыўныя акты, а таксама ў «Ведамасцях Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь».

6. Гэта Заключэнне ўступае ў сілу з дня абвяшчэння, з'яўляецца канчатковым, абскарджанню і апратэставанню не падлягае.

**Старшынствуючы — старшыня Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь Р. А. ВАСІЛЕВІЧ**

*23 студзеня 1998 г., г. Мінск. № 3-61/98*

# ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## АБ ЭКСПАРТНЫМ КАНТРОЛІ

*Прыняты Палатай прадстаўнікоў 25 лістапада 1997 года*
*Адобраны Саветам Рэспублікі 19 снежня 1997 года*

Гэты Закон вызначае прававыя асновы дзейнасці дзяржаўных органаў, юрыдычных і фізічных асоб Рэспублікі Беларусь у галіне экспартнага кантролю і рэгулюе адносіны, якія ўзнікаюць у сувязі з перамяшчэннем праз мытную граніцу Рэспублікі Беларусь і выкарыстаннем аб'ектаў экспартнага кантролю.

**ГЛАВА 1. АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ**

**Артыкул 1. Вызначэнне тэрмінаў, якія выкарыстоўваюцца ў гэтым Законе**

Для мэтаў гэтага Закона асноўныя тэрміны маюць наступнае значэнне:

тавары — любая рухомая маёмасць;

экспарт — вываз аб'ектаў экспартнага кантролю для пастаяннага размяшчэння за межамі мытнай тэрыторыі Рэспублікі Беларусь;

імпарт — увоз аб'ектаў экспартнага кантролю для пастаяннага размяшчэння на мытнай тэрыторыі Рэспублікі Беларусь;

рээкспарт — вываз за межы мытнай тэрыторыі Рэспублікі Беларусь раней увезеных аб'ектаў экспартнага кантролю, якія не падвергліся перапрацоўцы;

транзіт — перамяшчэнне аб'ектаў экспартнага кантролю праз тэрыторыю Рэспублікі Беларусь паміж двума пунктамі Дзяржаўнай граніцы Рэспублікі Беларусь пад мытным наглядам;

увоз і вываз — фактычнае перамяшчэнне тавараў праз мытную граніцу Рэспублікі Беларусь;

зброя масавага паражэння — хімічная, бактэрыялагічная (біялагічная), радыелагічная або ядзерная зброя;

тавары двайнога прымянення — абсталяванне, матэрыялы, сыравіна, тэхналогіі і навукова-тэхнічная інфармацыя, якія выкарыстоўваюцца ў грамадзянскіх мэтах, але могуць быць применены для вытворчасці ўзбраення, ваеннай тэхнікі і боепрыпасаў, у тым ліку зброі масавага паражэння і сродкаў яе дастаўкі;

тэхналогія — інфармацыя і «ноу-хау», выражаныя ў форме мадэляў, прататыпаў, чарцяжоў, дыяграм, праектаў, інструкцый, праграмных прадуктаў ці ў неадчувальнай форме — навучанне, тэхнічнае забеспячэнне (абслугоўванне), якія патрабуюцца для распрацоўкі, вытворчасці або выкарыстання тавару.

**Артыкул 2. Паняцце экспартнага кантролю**

Пад экспартным кантролем разумеецца ўстанаўленне і ажыццяўленне дазвольнага парадку ўвозу на мытную тэрыторыю Рэспублікі Беларусь, выкарыстання, транзіту і вывазу за яе межы аб'ектаў экспартнага кантролю.

**Артыкул 3. Мэты экспартнага кантролю**

Экспартны кантроль у Рэспубліцы Беларусь ажыццяўляецца ў мэтах:

забеспячэння нацыянальнай бяспекі і абароны эканамічных інтарэсаў Рэспублікі Беларусь;

выканання абавязацельстваў Рэспублікі Беларусь па міжнародных дагаворах і падтрымання міжнародных намаганняў па нераспаўсюджванню зброі масавага паражэння і звычайных сродкаў узбраенняў.

**Артыкул 4. Асноўныя прынцыпы ажыццяўлення экспартнага кантролю**

Экспартны кантроль у Рэспубліцы Беларусь грунтуецца на наступных асноўных прынцыпах:

ажыццяўленне дзяржаўнага кантролю за перамяшчэннем праз мытную граніцу Рэспублікі Беларусь аб'ектаў экспартнага кантролю;

праверка выкарыстання аб'ектаў экспартнага кантролю;

галоснасць і даступнасць інфармацыі аб парадку, правілах, мэтах, задачах, прынцыпах функцыянавання сістэмы экспартнага кантролю і мерах адказнасці за парушэнне заканадаўства Рэспублікі Беларусь аб экспартным кантролі;

вызначэнне пералікаў аб'ектаў экспартнага кантролю, а таксама краін, экспарт аб'ектаў экспартнага кантролю ў якія часова забаронены або абмежаваны;

гарманізацыя працэдур і правілаў экспартнага кантролю з агульнапрызнанымі міжнароднымі нормамі і практыкай.

**Артыкул 5. Сфера дзеяння гэтага Закона**

Гэты Закон распаўсюджваецца на адносіны, у якіх удзельнічаюць дзяржаўныя органы, юрыдычныя і фізічныя асобы Рэспублікі Беларусь у працэсе ажыццяўлення знешнеэканамічнай дзейнасці. Закон прымяняецца і ў тых выпадках, калі дзеянні або пагадненні, якія адпаведна ажыццяўляюцца ці заключаюцца дзяржаўнымі органамі, юрыдычнымі і фізічнымі асобамі Рэспублікі Беларусь за межамі тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, садзейнічаюць распаўсюджванню зброі масавага паражэння, звычайных сродкаў узбраенняў або наносяць урон нацыянальнай бяспецы, палітычным і эканамічным інтарэсам Рэспублікі Беларусь.

Закон не распаўсюджваецца на адносіны, якія рэгулююцца нормамі патэнтнага і аўтарскага права, за выключэннем выпадкаў, калі ўказаныя правы выкарыстоўваюцца іх уладальнікамі ў мэтах распаўсюджвання зброі масавага паражэння, звычайных сродкаў узбраенняў.

Калі міжнародным дагаворам Рэспублікі Беларусь устаноўлены іншыя правілы, чым тыя, якія змяшчаюцца ў гэтым Законе, то прымяняюцца правілы міжнароднага дагавора.

**Артыкул 6. Заканадаўства Рэспублікі Беларусь аб экспартным кантролі**

Заканадаўства аб экспартным кантролі ўключае гэты закон і іншыя акты заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 7. Аб'екты экспартнага кантролю**

Пад аб'ектамі экспартнага кантролю (спецыфічнымі таварамі) разумеюцца:

тавары, тэхналогіі і паслугі, прадугледжаныя міжнароднымі дагаворамі і абавязацельствамі Рэспублікі Беларусь, якія датычацца міжнароднай і нацыянальнай бяспекі;

хімічныя субстанцыі (таксіны), мікраарганізмы (вірусы, бактэрыі), устройствы, тэхналогіі і паслугі, якія могуць быць выкарыстаны для стварэння і вытворчасці хімічнай і бактэрыялагічнай (біялагічнай) зброі;

тавары, тэхналогіі і паслугі, звязаныя з ядзерным паліўным цыклам і вытворчасцю ядзерных матэрыялаў, якія могуць быць выкарыстаны для стварэння ядзернай зброі і ядзерных выбуховых устройстваў;

тавары, тэхналогіі і паслугі, якія могуць быць выкарыстаны пры стварэнні сродкаў дастаўкі зброі масавага паражэння;

зброя масавага паражэння і сродкі яе дастаўкі;

тавары, тэхналогіі і паслугі ваеннага прызначэння;

тавары двайнога прымянення;

вынікі навукова-тэхнічнай дзейнасці, уключаючы інфармацыю, дакументацыю, сродкі праграмнага забеспячэння, матэрыялізаваныя любым спосабам, якія могуць быць выкарыстаны пры стварэнні і вытворчасці ўзбраення, ваеннай тэхнікі і боепрыпасаў.

**ГЛАВА 2. ПАРАДАК АЖЫЦЦЯЎЛЕННЯ ЭКСПАРТНАГА КАНТРОЛЮ**

**Артыкул 8. Паняцце сістэмы экспартнага кантролю**

Пад сістэмай экспартнага кантролю разумеецца сукупнасць правілаў і сродкаў, накіраваных на ўстанаўленне і рэалізацыю парадку ажыццяўлення знешнеэканамічных аперацый, звязаных з перамяшчэннем праз мытную граніцу Рэспублікі Беларусь і выкарыстаннем аб'ектаў экспартнага кантролю, а таксама сукупнасць упаўнаважаных дзяржаўных органаў, якія забяспечваюць рэалізацыю ўказанага парадку.

Сістэма экспартнага кантролю ўключае ў сябе:

вызначэнне пералікаў аб'ектаў экспартнага кантролю з улікам міжнародных падыходаў у гэтай галіне;

вызначэнне рэжымаў экспарту аб'ектаў экспартнага кантролю ў асобныя краіны;

ліцэнзаванне ўвозу і вывазу аб'ектаў экспартнага кантролю;

прадастаўленне дзяржаўных гарантый выкарыстання ўвезеных на мытную тэрыторыю Рэспублікі Беларусь тавараў двайнога прымянення ў заяўленых мэтах і магчымасць іх рээкспарту толькі з дазволу ўпаўнаважаных органаў краіны паходжання тавараў;

правядзенне да- і пасляліцэнзійных праверак пры ажыццяўленні знешнеэканамічных аперацый з аб'ектамі экспартнага кантролю;

абмен інфармацыяй і іншае ўзаемадзеянне з міжнароднымі арганізацыямі і органамі экспартнага кантролю замежных дзяржаў.

**Артыкул 9. Пералікі аб'ектаў экспартнага кантролю**

Пералікі аб'ектаў экспартнага кантролю зацвярджаюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Пералікі з'яўляюцца адкрытымі і пасля іх зацвярджэння падлягаюць публікацыі.

**Артыкул 10. Устанаўленне асаблівых рэжымаў экспарту аб'ектаў экспартнага кантролю ў асобныя краіны**

Экспарт аб'ектаў экспартнага кантролю ажыццяўляецца ў любыя краіны, за выключэннем тых дзяржаў, у якія такі экспарт забаронены або абмежаваны ў адпаведнасці з міжнароднымі абавязацельствамі Рэспублікі Беларусь. Пералік дзяржаў, а таксама асобных аб'ектаў экспартнага кантролю, забароненых да экспарту ў гэтыя дзяржавы, зацвярджаецца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 11. Ліцэнзаванне**

На тэрыторыі Рэспублікі Беларусь дзейнічае адзіны парадак ліцэнзавання ўвозу і вывазу аб'ектаў экспартнага кантролю, які ўстанаўліваецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Каардынацыя ўзаемадзеяння ўпаўнаважаных дзяржаўных органаў у галіне экспартнага кантролю, афармленне, выдача, вядзенне ўліку і кантролю выканання выдадзеных ліцэнзій, іншых дакументаў, звязаных з перамяшчэннем праз мытную граніцу Рэспублікі Беларусь аб'ектаў экспартнага кантролю, іх выкарыстаннем на мытнай тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, ажыццяўляюцца Міністэрствам знешніх эканамічных сувязяў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 12. Правядзенне да- і пасляліцэнзійных праверак аб'ектаў экспартнага кантролю**

Пры ажыццяўленні знешнеэканамічных аперацый з аб'ектамі экспартнага кантролю да- і пасляліцэнзійныя праверкі праводзяцца Міністэрствам знешніх эканамічных сувязяў Рэспублікі Беларусь сумесна з зацікаўленымі дзяржаўнымі органамі ў парадку, які ўстанаўліваецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 13. Кантроль за выкарыстаннем тавараў двайнога прымянення**

Рэспубліка Беларусь у асобе ўпаўнаважаных дзяржаўных органаў гарантуе выкарыстанне тавараў двайнога прымянення ў заяўленых мэтах.

Дзяржаўны кантроль за выкананнем беларускімі імпарцёрамі і спажыўцамі абавязацельстваў па гарантыях выкарыстання імпартуемых тавараў двайнога прымянення ў заяўленых мэтах ажыццяўляецца ў парадку, які ўстанаўліваецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 14. Інфармацыя аб аб'ектах экспартнага кантролю**

Упаўнаважаныя дзяржаўныя органы ў галіне экспартнага кантролю для ажыццяўлення ўскладзеных на іх функцый маюць права на атрыманне ад дзяржаўных органаў, юрыдычных і фізічных асоб Рэспублікі Беларусь дакументаў і інфармацыі па пытаннях экспартнага кантролю.

Дакументы і інфармацыя, атрыманыя ўпаўнаважанымі дзяржаўнымі органамі ў галіне экспартнага кантролю ў адпаведнасці з гэтым Законам ад дзяржаўных органаў, юрыдычных і фізічных асоб Рэспублікі Беларусь, выкарыстоўваюцца выключна ў мэтах экспартнага кантролю.

Службовым асобам упаўнаважаных дзяржаўных органаў у галіне экспартнага кантролю забараняецца выдаваць і (або) перадаваць трэцім асобам дакументы (іх змест) і інфармацыю, указаныя ў частцы другой гэтага артыкула.

**Артыкул 15. Адказнасць за парушэнне заканадаўства Рэспублікі Беларусь аб экспартным кантролі**

Асобы, вінаватыя ў прадстаўленні недакладнай інфармацыі ў галіне экспартнага кантролю, парушэнні ўстаноўленага парадку перамяшчэння праз мытную граніцу Рэспублікі Беларусь аб'ектаў экспартнага кантролю і іншых парушэннях у гэтай галіне, нясуць адміністрацыйную, крымінальную і іншую адказнасць у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**ГЛАВА 3. ЗАКЛЮЧНЫЯ ПАЛАЖЭННІ**

**Артыкул 16. Уступленне гэтага Закона ў сілу**

Гэты Закон уступае ў сілу з дня яго апублікавання.

**Артыкул 17. Прывядзенне нарматыўна-прававых актаў у адпаведнасць з гэтым Законам**

Да прывядзення заканадаўства Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з гэтым Законам акты заканадаўства Рэспублікі Беларусь прымяняюцца ў той частцы, у якой яны не супярэчаць гэтаму Закону, калі іншае не прадугледжана Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь.

Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь у трохмесячны тэрмін:

прывесці рашэнні Урада Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з гэтым Законам;

забяспечыць перагляд і адмену рэспубліканскімі органамі дзяржаўнага кіравання, падпарадкаванымі Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь, іх нарматыўных актаў, якія супярэчаць гэтаму Закону;

падрыхтаваць і ўнесці ва ўстаноўленым парадку ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь прапановы аб прывядзенні заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з гэтым Законам.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А.ЛУКАШЭНКА**

*6 студзеня 1998 г., г.Мінск.*
*№ 130-З*

# ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## АБ УНЯСЕННІ ЗМЯНЕННЯЎ І ДАПАЎНЕННЯЎ У НЕКАТОРЫЯ ЗАКАНАДАЎЧЫЯ АКТЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*Прыняты Палатай прадстаўнікоў 17 снежня 1997 года*
*Адобраны Саветам Рэспублікі 20 снежня 1997 года*

**Артыкул 1**. Дапоўніць артыкул 20 Закона Рэспублікі Беларусь ад 18 снежня 1991 года «Аб плацяжах за зямлю» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., № 3, ст. 49; 1994 г., № 3, ст. 24; 1996 г., №7, ст. 90) пасля часткі восьмай новай часткай наступнага зместу:

«Сума зямельнага падатку, якая належыць да выплаты ў адпаведнасці з часткай восьмай гэтага артыкула, памяншаецца на суму, вылічаную прапарцыянальна ўдзельнай вазе аб'ёму фактычна выкананых работ па будаўніцтву дамоў (кватэр) для калгасаў, саўгасаў і іншых сельскагаспадарчых прадпрыемстваў у аб'ёме фактычна выкананых работ па будаўніцтву»;

часткі дзевятую і дзесятую лічыць адпаведна часткамі дзесятай і адзінаццатай.

**Артыкул 2.** Унесці ў Закон Рэспублікі Беларусь ад 23 снежня 1991 года «Аб падатку за карыстанне прыроднымі рэсурсамі (экалагічны падатак)» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., № 3, ст. 57; 1995 г., № 24-25, ст. 335) наступныя змяненні і дапаўненне:

у тэксце Закона словы «Кабінет Міністраў» замяніць словамі «Савет Міністраў» у адпаведным склоне;

артыкул 4 дапоўніць новай часткай наступнага зместу:

«Сума падатку за карыстанне прыроднымі рэсурсамі, якая належыць да выплаты ў адпаведнасці з артыкулам 5 гэтага Закона, памяншаецца на суму, вылічаную прапарцыянальна ўдзельнай вазе аб'ёму фактычна выкананых работ па будаўніцтву дамоў (кватэр) для калгасаў, саўгасаў і іншых сельскагаспадарчых прадпрыемстваў у аб'ёме фактычна выкананых работ па будаўніцтву».

Апублікаваць Закон Рэспублікі Беларусь «Аб падатку за карыстанне прыроднымі рэсурсамі (экалагічны падатак)» у «Ведамасцях Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь» з унесенымі ў яго змяненнямі і дапаўненнямі.

**Артыкул 3.** Дапоўніць пункт 1 артыкула 6 Закона Рэспублікі Беларусь ад 23 снежня 1991 года «Аб дарожных фондах у Рэспубліцы Беларусь» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., № 3, ст. 61) пасля часткі першай новай часткай наступнага зместу:

«Па аб'ёмах фактычна выкананых работ па будаўніцтву дамоў (кватэр) для калгасаў, саўгасаў і іншых сельскагаспадарчых прадпрыемстваў адлічэнні не робяцца».

**Артыкул 4.** У частцы другой пункта 2 Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 24 красавіка 1992 года «Аб захаванні і развіцці сеткі дзіцячых дашкольных установ» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., № 18, ст. 291; 1994 г., № 7, ст. 103) словы «фонду аплаты працы» замяніць словамі «фонду заработнай платы (за выключэннем заработнай платы, налічанай за работы па будаўніцтву дамоў (кватэр) для калгасаў, саўгасаў і іншых сельскагаспадарчых прадпрыемстваў)».

**Артыкул 5**. Гэты Закон уступае ў сілу з дня яго апублікавання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА**

*6 студзеня 1998 г, г. Мінск*
*№ 128-З*

## Беларускі народна-асветніцкі каляндар

**5 ЛЮТАГА**

100 гадоў з дня нараджэння (1898-1990) Г. А. Пёрышкіна, вучонага ў галіне гідратэхнічнага будаўніцтва, члена-карэспандэнта АН Беларусі.

*75 гадоў з дня нараджэння (1923) Л. Д. Шчамялёва, жывапісца, народнага мастака Беларусі.*

50 гадоў з дня нараджэння (1948) Ф. Б. Баторына, паэта, перакладчыка.

* * *

***Ад прывычкі, як ад хваробы, цяжка пазбавіцца.***

Народная прымаўка.

## Віншаванні

*Віншуем з днём нараджэння* ***Марыну Яўгенаўну КАРАТАЙ.*** *Жадаем здароўя, радасці, шчасця, поспехаў у вучобе.*

**Мама, Іра**, *в. Масцішча.*

*Сардэчна віншуем з днём нараджэння* ***Яўгена Віктаравіча СМАЛЯНІНАВА*** *з г. Стоўбцы. Жадаем здароўя, поспехаў у працы, шчасця і дабрабыту.*

**Бацькі, дзядуля, сястра.**

*З 50-годдзем,* ***Мікалай Рыгоравіч БЕЛЫ****. Моцнага здароўя табе, шчасця, дабрабыту!*

**Сястра, пляменніца,** *г. Мінск.*

*Віншуем з 50-годдзем* ***Ганну Уладзіміраўну ШУЛЕЙКА****.*

*Ужо з паўжызні пройдзена дарог,*
*жыві шчаслівa і багата! Хачу, каб*
*Бог ваш кут бярог і менш было*
*турбот у хаце.*

**Фелікс, Тэрэза,** *в. Беліца.*

## Пётр Машэраў — працяг будзе

**«Пётр Машэраў» (Жыццё. Лёс. Памяць) — пад такой назвай у выдавецтве «Юнацтва» выйшла другое, перапрацаванае і дапоўненае, выданне дакументальнай аповесці Славаміра Антановіча.**

Знамянальна, што кніга выйшла напярэдадні 80-годдзя з дня нараджэння выдатнага дзяржаўнага дзеяча Беларусі, Героя Савецкага Саюза, Героя Сацыялістычнай Працы Пятра Міронавіча Машэрава.

Аўтар — Славамір Антановіч — у мінулым спецыяльны карэспандэнт «Звязды», памочнік першага сакратара ЦК КПБ, а затым — саветнік Старшыні Вярхоўнага суда Беларусі, прэс-сакратар.

У кнізе расказваецца аб жыцці Пятра Машэрава, аналізуюцца розныя перыяды яго дзейнасці, даецца крытычнае асэнсаванне некаторых фактаў жыцця рэспублікі, у свой час засакрэчаных ад шырокіх слаёў насельніцтва, расказваецца аб абстаноўцы, якая панавала ў верхнім эшалоне ўлады.

Чытач даведаецца аб абставінах гібелі Пятра Машэрава, Фёдара Сурганава, аб трагедыі на Мінскім радыётэлевізійным заводзе футляраў, выбух на якім забраў мноства чалавечых жыццяў.

Выданне дапоўнена новымі раздзеламі аб Кірыле Мазураве, Ціхане Кісялёве, Міхаіле Гарбачове, Паліне Машэравай. Кніга багата ілюстраваная, большая частка фотаматэрыялаў публікуецца ўпершыню.

## На ніве мовазнаўства

**Споўнілася 70 гадоў з дня нараджэння вядомага пісьменніка-сатырыка, крытыка, мовазнаўца, журналіста Георгія Юрчанкі. Саюз беларускіх пісьменнікаў наладзіў творчы вечар у гонар юбіляра.**

Адкрыў яго паэт Алесь Пісьмянкоў. Ён адзначыў, што Г. Юрчанка па сутнасці стварыў у беларускай літаратуры школу літаратурнай пародыі. Асаблівая заслуга на ніве беларускага мовазнаўства — яго збіральніцкая праца народнай лексікі Мсціслаўшчыны. За амаль паўвека ён зафіксаваў дзесяткі тысяч слоў і розных словаспалучэнняў і выдаў іх у адзінаццаці кнігах. Такога поўнага збору лексічнага багацця не мае ні адзін рэгіён Беларусі.

Вітаць земляка прыехалі з Мсціслава намеснік старшыні райвыканкама Іван Карпечкін і рэдактар раённай газеты «Святло Кастрычніка» Аляксандр Сапёраў. Апошні расказаў пра цесную больш чым трыццацігадовую сувязь юбіляра з раённай газетай, пра створаныя ім творчыя партрэты знакамітых ураджэнцаў Мсціслаўшчыны.

Вядомы беларускі мовазнаўца лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР Аляксандр Крывіцкі, таксама ўраджэнец Мсціслаўшчыны, падкрэсліў, што выключную каштоўнасць маюць сабраныя Г. Юрчанкам розныя ўстойлівыя словаспалучэнні, і ў першую чаргу фразеалагізмы, якія ўкладальнік выпусціў у трох тамах пад арыгінальнымі назвамі «І коціцца і валіцца», «І сячэ і паліць», «Слова за слова». З дня на дзень чакаецца выхад трэцяй, заключнай часткі яго грунтоўнага збору «Сучасная народная лексіка». Гэта будзе дванаццатая кніга народнай мовы Мсціслаўшчыны.

**Аркадзь НАРКЕВІЧ,**
**доктар філалагічных навук, прафесар Белдзяржуніверсітэта.**

# З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# «МЫ НЕ «ДЫКТАТАРЫ» І НЕ «ПЕРАВОЗЧЫКІ ГРУЗАЎ».

## Мы — арганізатары, прызваныя стварыць для дабрачынцаў цывілізаваныя ўмовы работы»

***Інфармуе дырэктар Дэпартамента па гуманітарнай дапамозе пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, памочнік прэзідэнта Віктар КУЧЫНСКІ***

**Спачатку — даведка агульнага плана на тэму: якія існуюць у свеце віды гуманітарнай дапамогі. Яна можа быць дзяржаўнай, калі паступае па ўрадавых каналах. Яна можа паступаць на каналах ААН — там існуе спецыяльны дэпартамент па гуманітарнай дапамозе. Існуе і такая гуманітарная дапамога, якая зыходзіць ад прыватных ініцыятыў, ад тых грамадзян, якія жадаюць дапамагчы абяздоленым людзям, у прыватнасці, і нашым беларускім чарнобыльцам.**

**Сказаць, што сфера такой грамадзянскай дапамогі — рэч тонкая і складаная, значыць сказаць вельмі мала. Бо даўно вядома: колькі галоў і розумаў, столькі і меркаванняў, а таму не дзіўна, што кожны актыўны дабрачынец толькі свае ўяўленні аб такога роду дзейнасці і лічыць абсалютна правільнымі.**

*Паказальны прыклад тут — дзейнасць многіх дзесяткаў чарнобыльскіх гуманітарных ініцыятыў Германіі, якая, дарэчы, больш за іншыя заходнія краіны дапамагае нашым чарнобыльцам. Хутка ўжо дзесяць гадоў, як існуе ў ФРГ гэты рух, і, здавалася б, тэорыя і практыка яго павінны быць, як кажуць, на вышыні. Аднак гэты багаж, аказваецца, у кожнага свой.*

*Многае ідзе ад звычайнай неінфармаванасці. Таму кіраўнік Дэпартамента па гуманітарнай дапамозе і папрасіў даць яму магчымасць выступіць на старонках газеты з афіцыйнымі тлумачэннямі. Яму слова:*

—АДРАЗУ ПАВЕДАМЛЮ зусім не сенсацыйную інфармацыю: за ўвесь час сваёй работы наш дэпартамент непасрэдна не атрымаў «на свой адрас» ніводнай тоны гуманітарных грузаў, хаця такое права мы маем. Ніякіх дагавораў на непасрэдныя пастаўкі, пратаколаў намераў на гэтыя тэмы мы ні з кім не заключаем. Прасцей кажучы, гуманітарныя грузы мы не возім і складоў для іх не маем. Гэта я падкрэсліваю асабліва, каб зняць у будучым усе падобныя пытанні.

Для чаго прызначаны наш дэпартамент? Гуманітарныя грузы ён не фарміруе, не дзеліць і не размяркоўвае. Гэта справа тых грамадскіх арганізацый, тых людзей і прыватных ініцыятыў, якія займаюцца дабрачыннасцю па закліку душы. А мы, работнікі дэпартамента, дзяржаўнай службы, павінны стварыць ім усе ўмовы для плённай работы. Вось галоўны прынцып.

Што значыць арганізаваць работу па ўсёй лініі аказання гуманітарнай дапамогі? На афіцыйнай мове, згодна з палажэннем аб паўнамоцтвах і абавязках дэпартамента, ён каардынуе дзейнасць грамадскіх арганізацый, юрыдычных асоб, якія займаюцца гуманітарнай дапамогай і аздараўленнем дзяцей за мяжой, вядзе ліцэнзаванне такіх арганізацый. У нашай кампетэнцыі — і адпрацоўка нарматыўна-прававых дакументаў, кантроль за дзейнасцю ведамстваў, якія ажыццяўляюць праходжанне гуманітарных грузаў, разгляд скаргаў грамадзян (як жа без гэтага?) і іншыя спецыфічныя пытанні.

НЕКАЛЬКІ СЛОЎ пра «тэхналогію развязвання» такой спецыфікі. Два месяцы таму мы ў дэпартаменце правялі каардынацыйную нараду з удзелам прадстаўнікоў Дзяржаўнага мытнага камітэта, міністэрстваў аховы здароўя, сельскай гаспадаркі і харчавання, Камітэта пагранвойскаў, іншых ведамстваў. Сумесна прынялі рашэнне: неабходна максімальна спрасціць працэдуру праходжання гуманітарных грузаў праз граніцу і мытню.

Вырашылі, напрыклад, раз і назаўсёды, што адпраўнікам дапамогі зусім не трэба паштучна «распісваць» тое адзенне і абутак, якія яны адпраўляюць, — з гэтым разбяруцца самі раённыя камісіі на месцы прызначэння грузаў. Прынята рашэнне і ў дачыненні да індывідуальных пасылак з-за мяжы, з-за чаго ўзнікалі «вечныя» праблемы. Разабраліся і з іншымі пытаннямі.

Хто б і што з нашых апанентаў на гэты конт ні гаварыў, але я асабіста лічу: менавіта такая работа і называецца ўхіленнем перашкод на шляху гуманітарнай дапамогі да непасрэдных яе атрымальнікаў. Магу, дарэчы, афіцыйна пацвердзіць, што любы зварот замежнага грамадзяніна або арганізацыі па тых ці іншых праблемах, што ў іх узніклі, разглядаюцца ў нас у самыя сціслыя тэрміны.

Адкрыю маленькі сакрэт, хоць, магчыма, гэта ўжо зусім і не сакрэт: хутка на беларускай граніцы, на мытных пераходах з'явяцца шчыты з надпісам: «Гуманітарныя грузы — па-за ўсякай чаргой!» Думаю, лепшай рэкламы для нашых сапраўдных мэтаў і намаганняў не прыдумаеш.

Дык дзе ў Беларусі «хаваюцца» тыя, хто быццам бы ўстанаўлівае бар'еры на шляху гуманітарнай дапамогі? Адкуль бяруцца «глыбакадумныя» развaжанні аб нейкім, прабачце, дыктаце, што хтосьці, маўляў, хоча скаваць прыватную ініцыятыву грамадзян-дабрачынцаў? Усё гэта, скажу прама, надумана.

Таму і не буду каменціраваць падобныя легкаважкія заявы, а спынюся лепш на такім факце: жаданне заходніх пастаўшчыкоў гуманітарнай дапамогі ўдзельнічаць у яе размеркаванні сярод жыхароў чарнобыльскай зоны цалкам абгрунтаванае. Гэта ўвогуле іх натуральнае права — і пра што яшчэ тут спрачацца? Кожны ж дабрачынец хоча ведаць, да каго трапіла тое, што ён так старанна рыхтаваў. І наш дэпартамент нікому тут не збіраецца чыніць перашкоды.

Каб не было ніякіх чутак, яшчэ раз з усёй адказнасцю падкрэсліваю: з боку беларускай дзяржавы і яе афіцыйных структур ніякіх перашкод у пастаўках і размеркаванні гуманітарнай дапамогі няма — ні ў дачыненні да замежных прыватных ініцыятыў, ні да айчынных чарнобыльскіх грамадскіх арганізацый.

Маецца толькі адзін «момант»: неабходна, каб у 15-дзённы тэрмін пасля атрымання гуманітарнага грузу канкрэтная арганізацыя-атрымальнік зрабіла дэпартаменту справаздачу: куды і каму быў перададзены атрыманы груз.

Ва ўсім свеце існуе парадак, калі грамадскія арганізацыі, юрыдычныя асобы робяць справаздачу адпаведным дзяржаўным органам. Там усё адпрацавана: ніхто не чакае, калі справаздачу запатрабуюць, а самі дэкларуюць звесткі аб сваёй дзейнасці шляхам апублікавання іх у пэўных інфармацыйных бюлетэнях. Усё робіцца публічна.

Мы ж у Беларусі просім толькі аднаго і лічым гэта правільным: калі ўжо грузы, прызнаныя гуманітарнымі, вызвалены ад мытных збораў і падатковых плацяжоў, то дзяржава абавязкова павінна ведаць, што яны трапілі менавіта па прызначэнню.

Зразумела, што і ў самых законапаслухмяных на граніцы могуць узнікнуць праблемы з гуманітарнымі грузамі — пакуль гэта яшчэ ёсць. Аднак тут сёння спрацоўвае і пэўная асаблівасць: усе нашы работнікі памятаюць, што іх абавязак — дапамагаць, таму часта выязджаюць самі для сустрэчы канвояў з гуманітарнымі грузамі. І якія ж пытанні часам прыходзіцца ім «развязваць»? Адкуль узнікаюць скаргі нямецкіх перавозчыкаў грузаў?

Прычыны тыя ж, што і ў нас, беларусаў: недакладнасць і недысцыплінаванасць. Скажам, нямецкі бок указвае ў дакументах, што да нас прыбывае пяць машын з грузам, а прыязджаюць чатыры аўтамабілі. Ці заяўляюць у спецыфікацыях, што накіроўваецца груз аднаго віду, а ў фургонах — нешта зусім іншае ды і ў значна большым аб'ёме.

Дык ці трэба гаварыць, што ўсе гэтыя праблемы адразу знікнуць, як толькі замежныя дабрачынцы стануць поўнасцю захоўваць правілы, прынятыя ў іхніх краінах, а «заадно» і законы Беларусі? Гэта датычыцца і іхніх беларускіх партнёраў — атрымальнікаў дапамогі.

Калі ж штучных праблем сам сабе ніхто не стварыў, то і астатняе не павінна выклікаць асаблівай трывогі. Гуманітарныя грузы, якія прыбываюць на беларускую граніцу, адразу, без усякай чаргі, праходзяць агульны мытны дагляд, прычым ніякага іх растаможвання і складзіравання там не робіцца. Усе гэтыя аперацыі адбываюцца на рэгіянальных мытнях, калі грузы прыбываюць на канкрэтныя адрасы прызначэння, дзе знаходзяцца і мясцовыя склады.

Адразу пасля перасячэння замежным канвоем нашай граніцы Дзяржаўны мытны камітэт прадстаўляе ў дэпартамент дакументы аб характары і змесце паступіўшага гуманітарнага грузу. Нашы аддзелы аператыўна іх вывучаюць — і дэпартамент рыхтуе на імя прэзідэнта дакладную запіску аб прызнанні дадзенага грузу менавіта гуманітарным.

Характэрная дэталь: усе гэтыя дакументы кіраўнік дзяржавы разглядае ў першачарговым парадку. Калі яны прадстаўлены прэзідэнту, скажам, раніцай, то ў другой палове дня гэтыя афіцыйныя паперы ім ужо звычайна падпісаны. Прыведзены факт дадаткова сведчыць аб тым, якое значэнне надае кіраўніцтва краіны нармальнаму праходжанню гуманітарнай дапамогі.

ЧЫМ СЁННЯ кіравацца ў рабоце з гуманітарнай дапамогай? Да прыняцця новых заканадаўчых актаў усе выканаўчыя органы ўлады павінны пакуль выкарыстоўваць Пастанову Кабінета Міністраў № 682 ад 28 кастрычніка 1996 г. «Аб вызваленні ад абкладання мытнымі пошлінамі і падаткам на дабаўленую вартасць рэчаў, якія маюць характар гуманітарнай дапамогі ці прызначаны для гуманітарных мэтаў»; Пастанову Савета Міністраў № 11—13 ад 25 жніўня 1997 г. «Аб удасканаленні парадку арганізацыі аздараўлення і лячэння дзяцей за межамі Рэспублікі Беларусь», а таксама некаторыя іншыя нарматыўныя дакументы. Уключаючы і тыя рэкамендацыі дэпартамента, якія ён афіцыйна накіроўвае ў выканаўчыя органы ўлады розных узроўняў.

Усім, хто займаецца справамі гуманітарнай дапамогі, думаю, цікава будзе даведацца, што дэпартамент разам з Камісіяй па праблемах чарнобыльскай катастрофы, экалогіі і прыродакарыстання Палаты прадстаўнікоў беларускага парламента распрацаваў праект закона аб гуманітарнай дзейнасці ў Беларусі, які цяпер знаходзіцца на разглядзе ў прэзідэнта. Падрыхтаваны для разгляду кіраўніком дзяржавы і праект указа аб парадку вызвалення ад спагнання консульскіх збораў за выдачу віз замежным грамадзянам і асобам без грамадзянства, якія прыбываюць у нашу краіну для ажыццяўлення гуманітарных праграм. Маюцца і яшчэ два праекты ўказаў — аб парадку праходжання гуманітарных грузаў і аб размеркаванні такіх грузаў.

Як звычайна, калі з'явіцца ў гэтай сферы новае заканадаўства, то пачнуцца і пытанні — ад тых людзей, якім прыйдзецца па гэтых нормах працаваць.

Зробім крок ім насустрач і **назавём некалькі тэлефонаў у Мінску, у нашым дэпартаменце, па якіх заўсёды можна атрымаць кваліфікаваную кансультацыю: 222-70-34; 222-70—29; 222-70-38.**

Немалую практычную аддачу дасць і нарада, якую мы правялі ў лістападзе з намеснікамі старшынь аблвыканкамаў. Ім была даведзена ўся інфармацыя, якая датычыцца парадку, правілаў пастаўкі і размеркавання гуманітарнай дапамогі з тым, каб яны маглі дапамагаць гэтай рабоце з веданнем справы. Тыя замежныя арганізацыі, дэлегацыі, якія прывозяць да нас гуманітарныя грузы і знаходзяцца ў канкрэтных раёнах Беларусі, абавязкова павінны прымацца на ўзроўні не ніжэй кіраўніцтва райвыканкамаў. Бо гуманітарная дапамога, якая аказваецца жыхарам дадзенай тэрыторыі, гэта даволі адчувальная дапамога; сама ж выканаўчая ўлада пакуль яшчэ не можа аказаць яе ў дастатковым аб'ёме.

Што датычыцца кантролю за паступіўшай гуманітарнай дапамогай, то ён заключаецца зусім не ў тым, каб хтосьці камусьці прадпісваў, што і як рабіць, каму і куды везці грузы. Сутнасць у тым, каб аператыўна пастаўляць аб'ектыўную інфармацыю аб патрэбнасцях у той ці іншай дапамозе, якая, магчыма, паступіць у канкрэтны раён, менавіта арганізацыям, зарэгістраваным на тэрыторыі гэтага раёна, у якіх маюцца прамыя кантакты з замежнымі прыватнымі ініцыятывамі і якія гатовы да работы з гуманітарнай дапамогай.

Дэпартаментам такая падрыхтоўка ўжо ажыццёўлена. Мы правялі своеасаблівы сацыяльны маркетынг на прадмет выяўлення патрэбнасці сярод розных слаёў насельніцтва ў гуманітарнай дапамозе, не забыўшы пры гэтым і школы, дзіцячыя, медыцынскія і іншыя ўстановы. У нас рыхтуецца аб'ёмны бюлетэнь, у якім будзе сабрана ўся неабходная інфармацыя ў цэлым па Беларусі, — яна будзе прадастаўляцца і нашым грамадскім арганізацыям, і замежным партнёрам, каб усе разам маглі больш упэўнена працаваць у гэтым накірунку.

**Запісаў**
**Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**





Фота Васіля ЗЯНЬКО.



## ВОДГУК ДУШЫ

Так ужо, на жаль, атрымоўваецца, што творы многіх беларускіх мастакоў больш вядомыя за мяжой, чым дома, у роднай Беларусі. Так і ў творчасці Уладзіміра Зінкевіча — загадчыка кафедры манументальна-дэкаратыўнага мастацтва Беларускай акадэміі мастацтваў. Сапраўды цікавыя жывапісныя палотны сёння прадстаўлены на суд гледачоў у далёкім замежжы.

Творы мастака знаходзяцца не толькі ў зборах Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі, Рэспубліканскай галерэі, але і Траццякоўкі ў Маскве, галерэі «Спектрум» Бад-Зальцуфлена ў Германіі, прыватных калекцыях ЗША, Аўстрыі, Італіі, Ірландыі, Англіі. Неабходна нагадаць, што ў 1992 годзе Інтэрнацыянальны Біяграфічны Цэнтр у Кембрыджы прызнаў Уладзіміра чалавекам года ў галіне мастацтва.

У гэтыя дні мінчане, госці сталіцы маюць магчымасць пазнаёміцца з новымі жывапіснымі палотнамі — водгукам душы і вынікам творчага пошуку майстра, што прадстаўлены на суд гледачоў — аматараў мастацтва ў галерэі Салона мастацтваў. На здымках: Уладзімір Зінкевіч; у зале выставы і работа «Начная сустрэча».

# НОВАЕ — ЗАБЫТАЕ СТАРОЕ?

## Ці выратуе нашы калгасы ўнутрыгаспадарчы разлік?

***Нядаўна ў Драгічыне прайшоў абласны семінар-нарада, на якім з дакладам выступіў старшыня Брэсцкага аблвыканкама Уладзімір Заламай і, прааналізаваўшы стан сельскай гаспадаркі ў вобласці, рэкамендаваў усім калгасам Брэстчыны ў 1998 годзе перайсці на ўнутрыгаспадарчы разлік. У прыклад быў пастаўлены Драгічынскі раён, які практычна ва ўсіх гаспадарках увёў гаспадарчаразліковыя адносіны. Акрамя гэтага, Драгічынскі раён лідзіруе ў вобласці па вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі. Гэта і прымусіла наведаць гэты раён і сустрэцца са старшынёй райвыканкама Сяргеем МАМАЦЮКОМ.***

**— Сяргей Паўлавіч, як здарылася, што Драгічынскі раён найлепшы ў вобласці? А да вас жа даехаць цяжкавата — ускраіна.**

— А палешукі заўсёды разлічвалі толькі на сябе, а не жылі за кошт дзяржавы. Успомнім, якія вялікія грошы ўкладваліся ў некалькі раёнаў вобласці. Будавалі там комплексы і пасёлкі, рапартавалі пра дасягненні і атрымлівалі званні ды ўзнагароды. А сёння ўсяго гэтага няма. Усе пастаўлены ў аднолькавыя ўмовы. Вось кожны і стаў на сваё месца ў «турнірнай табліцы».

**— Са слоў старшыні аблвыканкама, кадравы патэнцыял раёна ўжо сёння можа заявіць пра сябе на ўсю краіну. Гэта сапраўды так?**

— Зверху лепш відаць, але ў раёне ёсць добрыя рэзервы спецыялістаў. Прыйшлося ў палове гаспадарак замяніць кіраўнікоў маладымі і энергічнымі людзьмі. Усе галоўныя спецыялісты гаспадарак прайшлі атэстацыю ў выканкамах, а астатнія спецыялісты — праз упраўленне сельскай гаспадаркі. Праводзім практычныя семінары на месцах. У месяц наведваем некалькі калгасаў, дзе і падводзім вынікі працы. Ад людзей патрабуем, каб яны мыслілі творча, ведалі культуру земляробства, былі ў курсе новых тэхналогій. Адным словам, шукаем гаспадара. Дарэчы, дастаткова паглядзець, у якім доме жыве чалавек, той жа спецыяліст, каб зрабіць выснову, ці будзе ад яго карысць у калгасе. Калі там чысціня і парадак, то і на рабоце будзе толк.

**— Добра. А цяпер давайце закранём галоўнае пытанне. Што гэта за новы гаспадарчы разлік, які вы ўвялі ў раёне?**

— Галоўная задача ўнутрыгаспадарчага разліку ў тым, каб палепшыць працоўную і тэхналагічную дысцыпліну на вытворчасці. Каб кожнае падраздзяленне калгаса вяло строгі ўлік прадукцыі і затрат. Рабочыя на фермах, у брыгадах і майстэрнях павінны ведаць, што колькі каштуе і якая ад гэтага будзе аддача.

Між іншым, 8—10 гадоў таму ў нашых гаспадарках ужо быў такі гаспадарчы разлік. Успомнім калектыўныя, сямейныя і індывідуальныя падрады.

**— Але складваецца ўражанне, што вы замест таго, каб ісці наперад, шукаеце выйсце ў мінулым. Так можна зноў пачаць будаваць камунізм.**

— Жыццёвы вопыт паказвае, што аглядвацца час ад часу назад не шкодзіць. Адкідваць усё з таго, што было зроблена, таксама не выходзіць. Падумаеш, прааналізуеш і бачыш, што вось гэтае можна выкарыстаць.

Мы многае страцілі падчас распаду СССР. І цяпер прыходзіцца аднаўляць. Немагчыма зрабіць крок наперад, калі чалавек не будзе беражлівым. Можна затраціць на вытворчасць кілаграма мяса 8 кармавых адзінак, а можна і ўдвая больш. Мы ўсё яшчэ не можам выйсці на эканамічныя пазіцыі 1990 года. А што датычыць камунізму, то гэта сфера палітыкі.

**— Пагадзіцеся, ствараецца абсурдная сітуацыя. Дзесяць гадоў таму цэны былі стабільныя. А сёння? На сельскагаспадарчую прадукцыю фіксаваныя, а на бензін, тэхніку, угнаенні... свабодныя. Ды і з унутрыгаспадарчым разлікам накладка атрымалася. Для паляводаў вытворчасць збожжавых рэнтабельная, а той, хто працуе на ферме, гадуе бычкоў, — банкрут.**

— Безумоўна, стратэгічную лінію ў сельскай гаспадарцы праводзіць дзяржава. Але ў эканамічнай сітуацыі, якая склалася ў гэтай галіне, унутрыгаспадарчы разлік — непазбежная рэальнасць. Калі не лічыць, то ўвогуле атрымліваецца абсурд. Не трэба забываць і пра якасны паказчык. Напрыклад, калі здаваць малако ахалоджаным, сырапрыгодным і г. д., то рэнтабельнасць дасягне трыццаці і болей працэнтаў. Без пошуку эканамічных метадаў развіцця галіны немагчыма дабіцца поспеху.

Адносна работы на ферме трэба сказаць, што вытворчасць мяса сапраўды нерэнтабельная, але пераразмеркаванне фінансаў — гэта ўжо ўнутраная справа гаспадаркі.

**— Выходзіць, што менавіта гаспадарчы разлік вывеў ваш раён у лідэры?**

— Адмаўляць гэтага не буду. Мы пачалі ўводзіць гаспадарчы разлік ужо ў 1995 годзе і неўзабаве ахапілі ім увесь раён. У іншых жа раёнах было толькі па два-тры калгасы з гэтай формай гаспадарання. Але справа не толькі ў гаспадарчым разліку. У нас добрая кармавая база. Ва ўсіх калгасах вырошчваюць кукурузу, якая дае добрыя ўраджаі, вядзём племянную работу... І як вынік гэтага — надоі на карову па раёну каля 3000 літраў.

Памятаем і пра паляпшэнне ўмоў працы работнікаў сяла. Адным словам, працуем.

*Пасля размовы са старшынёй райвыканкама я пабываў у трох калгасах раёна, якія размешчаны па дарозе на Бярозу. Як сказаў кіраўнік упраўлення сельскай гаспадаркі Фёдар Рапінчук, па гэтых калгасах можна меркаваць і пра стан спраў у іншых калгасах раёна. Прыйшлося пагадзіцца. Паўсюдна адчуваецца гаспадарская рука. Няма паваленых платоў, фермы пабелены, тэхніка стаіць роўненька... А каля праўлення калгаса «Новы шлях» узняты чырвоны сцяжок у гонар пераможцаў спаборніцтва. Крыху дзіўна, але кранае сваёй наіўнасцю.*

*Мяне ж найперш цікавіла, што думаюць кіраўнікі гаспадарак пра гаспадарчы разлік.*

***Старшыня калгаса імя Дзімітрава Канстанцін ЮРАШЭВІЧ:***

— Увогуле, гэта забытае старое, але пры гэтай эканамічнай сістэме нічога лепшага не прыдумаем. Гаспадарчы разлік прымушае людзей думаць. Свята даярка не выключыла — меней атрымала даплаты. Гараць ва грошы. Раней калгаснік выпусціў прадукцыю — і затраты яго не цікавілі. Цяпер задумаецца.

***Старшыня калгас «Новы шлях» Уладзімір ХІЛЬКО:***

— Каб выжыць, трэба лічыць. У нас гаспадарчы разлік ужо другі год, але так працягвацца доўга не можа. Неабходна, каб калгасы пасля выканання дзяржзаказу мелі права прадаваць пэўны працэнт сваёй прадукцыі па свабоднай цане.

***Старшыня калгаса імя Кірава Мікалай ЮРАШЭВІЧ:***

— Гаспадарчы разлік хаця і вучыць эканоміць, але праблемы не вырашае. Прадукцыю калгасаў неабходна прывязаць да долара. Мы не можам жыць ізалявана. Павінен быць парытэт цэн з сумежнымі дзяржавамі. Сёння мы лічым рэнтабельнасць няправільна. Вось не пералічылі на новыя — цэны і прадукцыя атрымалася рэнтабельнай. Не трэба займацца вынаходствам веласіпеда. Дарога ў сельскай гаспадарцы даўно пракладзена і трэба па ёй ісці.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

Фізічна баюся натоўпу, вялікай колькасці людзей. А ў дзяцінстве, нават юнацтве любіў дэманстрацыі, мітынгі. Хацелася быць як усе. І каб усе былі як я. Такое ўзаемапранікненне. Я добра памятаю, якое захапленне адчуваў. Ажно грудзі распірала.



Пасля дваццаці пакрыху, марудна пачало прыходзіць працверазенне. Асабліва пасля арміі. Там на практыцы паказвалі, што можна зрабіць, калі замест «я» існуе толькі «мы». Гэта асвячалася прысягай і зместам статутаў: загад камандзіра выконваецца без развагаў, хутка і ў тэрмін. Калі ёсць «мы», то для «я» месца не застаецца. Яўген Замяцін свой раман-антыўтопію назваў вельмі дакладна — «Мы».

Тыя, каму зараз за трыццаць, яшчэ павінны памятаць гэты газетны штамп ці, больш правільна, абавязковую форму: «Мы, рабочыя завода імя сусветнай рэвалюцыі, абмеркаваўшы і горача адобрыўшы...», альбо «Мы, калгаснікі калгаса «Чырвоны дышаль», гнеўна асуджаем і падтрымліваем...» І далей па тэксту. Сам такія пісаў. Пазвоніш сакратару партарганізацыі: «Адабраеце?» «Якія пытанні!» — праз дзесяць хвілін заметка гатова.

За «мы» лёгка схавацца. Што Яўсей, то і ўсе. Тыя, хто меў сваё асабістае меркаванне, разам з ім меў цэлы шэраг непрыемнасцяў. Тыя, хто меў сваё меркаванне і не баяўся яго выказаць публічна, сядзелі ў Мардоўскіх лагерах. Іх, праўда, было нямнога. Мы іх цяпер ведаем па імёнах.

Большасць аддавала перавагу кухонным размовам, шэптам, пад гарэлачку, пад Высоцкага, з п'янаю слязою: эх, нарр-род! Потым далі «свабоду». Кухонныя размовы перамясціліся на плошчы. Але нічога не змянілася. Гэта толькі здавалася, што змянілася — падман зроку, не больш. Мы па-ранейшаму падыходзілі пад вызначэнне «мы». Мне прыходзілася бываць і на «правых», і на «левых» мітынгах — карціна ў асноўным падобная. Я назіраў за людзьмі і бачыў «мы», але не знаходзіў «я». «Я» не ўласцівае натоўпу. Са знакам ён «плюс» ці са знакам «мінус». Мне здаецца, натоўп — гэта заўсёды знак «мінус».

Непрыкметна мы зноў перамясціліся на кухні. Якраз у той час, калі агульнае «мы» пачало распадацца на асобныя «я». Быць «я» зноў стварае праблемы.

Але — парадокс — верыць і даваць можна толькі «я». Дагаварыцца можна толькі з канкрэтным чалавекам. Спытаць, што ён думае, у натоўпа нельга. Ён думае заўсёды аднолькава, ва унісон, бо ў яго такія законы. Хто не з намі, той супраць нас. Калі вораг не здаецца, яго знішчаюць. І гэтак далей.

Нельга любіць натоўп, гэта штосьці ненатуральнае. Праўда, гэта нармальны стан нармальнага чалавека. Поўнасцю нармальнымі назваць нас нельга. Гэта як хвароба. І мы толькі-толькі пачалі папраўляцца. Іншымі словамі, шукаць сваё «я».

Шчаслівых пошукаў...

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**
**Фота Андрэя ШАЎЦОВА.**

# ДАБРАТА ЧУЖОГА ДОМА

**Яны ніколі не бачылі галубцоў, а хлеб і пячэнне спачатку хавалі. Мо заўтра гэтага ўжо не будзе — і зноў голад?**

— Ах ты б...! Ды пайшла ты...!

Гэта — жонка мужу ці наадварот. А затым дзіцячы крык:

— Мамачка, тата, ну не трэба! Не трэба, прашу вас!

Нешта грукаецца, кідаецца, б'ецца. Ад падобных разборак паміж мужам і жонкай у суседняй кватэры мой знаёмы прачынаецца калі не кожную ноч, дык раз на тыдзень дакладна. Такая «гуканепранікальнасць» у яго шматпавярхоўцы.

У кастрычніку мінулага года ў дзіцячым садзе № 57 г. Гродна, дзе загадчыцай Тэрэза Якаўлеўна Кухта, стварылі незвычайную для дашкольнай установы групу. Незвычайнасць яе ў тым, што толькі пяцёра новых выхаванцаў яшчэ не ходзяць у школу, астатнія — вучні першага, чацвёртага і іншых класаў, старэйшым дзяўчынкам чатырнаццаць і пятнаццаць гадоў. Усе яны ўвайшлі ў адну, першую ў горадзе, кругласутачную групу інтэрнатнага тыпу.

Чаму ж у школьным узросце і раптам — спальны пакой і харчаванне ў дзіцячым садзіку? Ды таму, што іншага шляху, каб выратаваць гэтых хлопчыкаў і дзяўчынак, не было. Па закону ў дзіцячы дом ці інтэрнат накіроўваюцца толькі сіроты альбо дзеці тых, хто пазбаўлены бацькоўскіх правоў. Аднак ажыццявіць апошняе, нават калі абсалютна відавочна, што дзіця ў такіх бацькоў галадае і ў літаральным сэнсе гіне, няпроста. Для некаторых п'яніц пазбаўленне бацькоўскіх правоў будзе аўтаматычна азначаць і страту грашовай дапамогі па доглядзе за дзецьмі, і тады за што «квасіць»? Іншыя алкашы стравіць дармавую рабочую сілу, якая ў лепшым выпадку за кавалак хлеба і малако мые на вакзале іншамаркі.

Сёстры Юля і Света, якіх да такога занятку прымушалі маці і яе сужыцель, два гады не хадзілі ў школу. Цяпер у дзіцячы сад да іх спецыяльна прыходзяць настаўнікі, каб дзяўчынкі паступова нагналі тое, што ўжо даўно ведаюць іх равеснікі. Міліцыя забрала сясцёр з так званага жылля, дзе з-за няўплаты адключылі святло, а печ развалілася і зусім не было ацяплення. Дзяўчынкі нажылі хранічны гастрыт і іншыя хваробы. Галубцоў яны дагэтуль ніколі не бачылі, а хлеб і пячэнне спачатку хавалі. Мо заўтра гэтага ўжо не будзе — і зноў голад? Ёгурт сёстры аднойчы перадалі свайму пяцігадоваму брацiку, якога пакуль не ўдаецца вырваць з бацькоўскага «пекла», бо маці катэгарычна супраць.

І такіх гора-бацькоў зусім не адзінкі. Па выкліку ў суд для разгляду пытання аб пазбаўленні бацькоўскіх правоў яны не ідуць, ад міліцыі хаваюцца. Некаторыя прадалі свае кватэры, а грошы прапілі, бадзяюцца па падвалах і бардэлях. Сямігадовы Вася, пакуль не трапіў у дзіцячы сад № 57, «працаваў» з бацькамі на гарадской смеццевай звалцы. Нядаўна яго наведаў бацька, прынёс шакаладку, якой, перш чым аддаць сыну, паказваў перад выхавацелямі. Брата і сястру Ш. забралі з «хаты» без вокнаў і дзвярэй, дзе была толькі куча лахманоў. За два месяцы да іх яшчэ ніхто не прыходзіў. А яшчэ адзін выхаванец Тэрэзы Якаўлеўны і яе калег Саша, наадварот, сам наведвае маці-інваліда, каб нечым дапамагчы. А бацька п'е, скандаліць.

Шасцігадовы Паўлік (ад пастаяннага недаядання ў мінулым ён выглядае ад сілы на тры гады) спачатку вельмі смуткаваў без сваёй пяцігадовай сястрычкі. Потым, калі міліцыя «вылавіла» і яе, настрой у хлопчыка палепшыўся. А шасцігадовага Дзіму даставілі ў групу так моцна збітым, што давялося чатыры разы мяняць прасціну, каб не засталося крывавых слядоў. Затым бацька-садыст прыйшоў у дзіцячы сад і ўчыніў скандал, маўляў, я не алкаголік і не наркаман і маю бацькоўскія правы. Сапраўды, пакуль мае. Дык што, чакаць, калі дзіця заб'юць альбо яно памрэ з голаду? Не, вырашылі ў аддзеле адукацыі Гродзенскага гарвыканкама. Цяпер ёсць палажэнне аб спецыяльнай групе для дзяцей, чые бацькі не пазбаўлены бацькоўскіх правоў, пры дзіцячым садзе № 57. Магчыма, з сённяшнім заканадаўствам тут і ёсць нейкая нестыкоўка. Але з гуманнасцю, чалавечнасцю — поўная згода.

Канешне, нішто не заменіць дзецям бацькоўскую хату, дзе пануюць любоў і ўзаемапавага. Але тую дабрату, на якую здольны чужы дом, ён, без перабольшання, выратаваным хлопчыкам і дзяўчынкам дае. Грашыма, рэчамі дапамагаюць бюджэт і дабрачынныя фонды. Чым могуць — падсабляюць іншыя дзіцячыя сады і гарадскія школы. Утульна ў спальных пакоях, ёсць тэлевізар, кніжкі, для самых маленькіх удосталь цацак. Дзеці, няхай і не так модна, як хацелася б старэйшым дзяўчынкам, але акуратна апранутыя. Спецыяльна для іх у суботу і нядзелю працуе кухня. Зразумела, вучоба, гурткі па інтарэсах, удзел у спартакіядах і конкурсах, якія адбываюцца ў школе і дзіцячым садзе.

І ўсё роўна многія дзеці, па словах Тэрэзы Якаўлеўны, вельмі сумуюць па бацьках, нават плачуць. Чужы дом, нават з клапатлівымі, чулымі выхавальніцамі, усё ж чужы. Але ў ім лепш, чым на смеццевай звалцы альбо ў нейкім «хляве» з холадам, голадам і п'янымі оргіямі.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Заход | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 7.50 | 16.57 | 9.07 |
| Віцебск – | 7.44 | 16.43 | 8.59 |
| Магілёў – | 7.39 | 16.47 | 9.08 |
| Гомель – | 7.31 | 16.49 | 9.18 |
| Гродна – | 8.04 | 17.13 | 9.09 |
| Брэст – | 8.00 | 17.19 | 9.19 |

### МЕСЯЦ

**Першая квадра 4 лютага**
**З 13.04 – 9-ыя месяцавыя суткі.**
**З 5.10 Месяц – у сузор'і Блізнятаў.**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае надвор'е, на большай частцы тэрыторыі снег, мокры снег. Тэмпература паветра ў Віцебску і Магілёве — 0—2 градусы марозу, Мінску і Гомелі — каля нуля, Гродне і Брэсце — 0—2 градусы цяпла.

У наступныя двое сутак: 6-га на большай частцы тэрыторыі снег, слабая мяцеліца; 7-га — пераважна без ападкаў. Тэмпература 6-га ўначы і ўдзень — 3—8, 7-га паніжэнне тэмпературы: уначы — 7—12, удзень — 3—8; па паўночнаму ўсходу ўначы — 13—18, удзень — 6—11 градусаў ніжэй нуля.

### ІМЯНІНЫ

**ПР. Касмы, Дамінікі. К. Генадзя, Феакціста**

# НА СВАЕ ВОЧЫ

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

**ПРЫНЯТА АДСТАЎКА ПРЭЗІДЭНТА АРМЕНІІ**

Парламент Арменіі прыняў учора раніцай адстаўку прэзідэнта краіны Тэр-Петрасяна. За гэта рашэнне прагаласавалі 111 дэпутатаў, 36 былі супраць, трое ўстрымаліся. Спікер парламента, абодва яго намеснікі, кіраўнікі паловы пастаянных камісій таксама пакінулі свае пасады. Выконваючым абавязкі кіраўніка дзяржавы прызначаны прэм'ер-міністр Качаран. Рашэнне Тэр-Петрасяна аб адстаўцы было прынята пад моцным ціскам з боку парламенцкай большасці і кіраўніцтва сілавых структур. У кіраўніцтве Арменіі ўзнік раскол пасля таго, як прэзідэнт даў згоду на план паэтапнага ўрэгулявання карабахскага канфлікту, прапанаваны АБСЕ.

**ЕЛЬЦЫН ПЕРАСЦЯРОГ ЗША**

Прэзідэнт Расіі Ельцын заклікаў ЗША да асцярожнасці ва ўрэгуляванні крызісу вакол Ірака. Па яго словах, у свеце накапілася столькі зброі, што яе новае выкарыстанне можа прывесці да III сусветнай вайны. Ва ўчарашняй размове з журналістамі ў Крамлі Ельцын падкрэсліў, што сам ён робіць усё магчымае для мірнага вырашэння канфлікту. Учора Дзярждума Расіі прыняла пастанову, у якой прапануе ўраду выйсці з санкцый супраць Ірака ў выпадку нанясення па ім удару, несанкцыяніраванага Саветам Бяспекі ААН.

**ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ ПРЭЗІДЭНТА — НАГОДА ДЛЯ АМНІСТЫІ**

Больш як 7 тысяч зняволеных у Туркменістане будуць вызвалены па амністыі, якую абвясціў прэзідэнт рэспублікі Ніязаў з нагоды свайго дня нараджэння 19 лютага. Дзень нараджэння прэзідэнта з'яўляецца ў Туркменістане нацыянальным святам. Тыя, хто трапіў пад амністыю, павінны будуць перад выхадам на волю даць клятву на Каране, што больш ніколі не парушаць закон.

**ЦІ ЁСЦЬ ЖЫЦЦЁ НА ЕЎРОПЕ?**

Еўропа — спадарожнік планеты-гіганта Юпітэра — трапляе ў цэнтр пошукаў жыцця за межамі Зямлі, якія праводзіць НАСА. Як аб'явіла амерыканскае касмічнае ведамства, яно плануе пабудаваць і запусціць к 2003 году да Еўропы новы касмічны апарат. Ён павінен будзе даць адказ на найбольш важнае пытанне: ці сапраўды знешне бачная абалонка Еўропы — водны акіян, у якім, магчыма, існуе жыццё.

**Паводле паведамленняў радыё «Свабода», «Голас Амерыкі» і «Радыё Расіі».**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

У Кеніі вясковы святар добра-такі пацярпеў з-за сваіх амурных прыгод. Адправіўшыся на пахаванне свайго прыхаджаніна, шчадралюбны пастар завярнуў да сваёй даўняй пасіі і там стаміўшыся заснуў. Прачынанне было жудасным. У дом уварваліся жыхары вёскі і прыняліся збіваць служку царквы палкамі. А адзін зямляк, відаць, меў асабісты рахунак да пастара і адсек яму руку мачэтэ. Свяшчэнніка на насілках аднеслі ў мясцовую бальніцу. Ён апраўдвае свае паводзіны тым, што яго жонка здраджвае яму з суседзямі.

**Рэйтэр.**

*Вільнюскі кватэрны злодзей у момант затрымання паліцыяй паспеў праглынуць нарабаванае. Але ахоўнікам парадку здаліся падазронымі паводзіны злачынцы, і яго накіравалі ў рэнтгенаўскі кабінет. Урач поўнасцю выкрыў злодзея. На рэнтгенаўскім здымку добра праявілася крадзенае. Толькі вось уладальніку прыйшлося трохі пачакаць вяртання каштоўнасцяў.*

**«Труд».**

### ТВОРЧЫЯ ВАНДРОЎКІ

# СІБІРСКІЯ БЕЛАРУСЫ ЖЫВУЦЬ НЯПРОСТА, АЛЕ ПАМЯТАЮЦЬ І СПЯВАЮЦЬ СВАЕ ПЕСНІ

Два гады таму мне выпадкова пашчасціла сустрэцца з вельмі маладым і вельмі багатым душою хлопцам. Звалі яго Міхась, па прозвішчу Басякоў. Прыехаў ён на Беларусь аж з Сібіры. Там нарадзіўся і вырас. Адкуль жа такая цудоўная беларуская мова, адкуль песні — нашыя, новыя і старадаўнія, многія з якіх і не спяваюць сёння на Беларусі?

Гэта была Міхасёва спадчына — ад бабулі і прабабулі, якую яны павезлі з сабою ў далёкім 1861 годзе, пасля адмены прыгоннага права, у Сібір, на пошукі лепшай долі. Былі Міхасёвы продкі беларусамі, і прозвішча іхняе — не ад «басякоў», а ад назвы ціхай рачулкі Бася, што на Магілёўшчыне. Туды і прыехаў хлопец, каб пабачыць, дзе пачынаўся род, каб пакланіцца ад імя многіх пакаленняў гэтай зямельцы, набраць гаючай вады з Басі, памаліцца за родных. Няпроста ім жылося і ў Сібіры. Тая прабабуля-знахарка разам з землякамі-беларусамі жылі ў зямлянках, потым па бярвенцу ставілі хаты. Зямлі было ўдосталь, толькі апрацоўвай, але цэлыя пакаленні марылі пра іншы край — пакінутую Беларусь. Міхась Басякоў праспяваў мне безліч беларускіх народных песень, рэдкіх балад, асобныя з якіх гучалі амаль цэлую гадзіну. Я быў проста зачараваны такім веданнем традыцый, сваіх каранёў.

Колькі такіх лёсаў, колькі марспадзяванняў, спраўджаных і не, тоіцца за словам «Сібір»? Колькі эшалонаў адпраўлена туды за час калектывізацыі, розных ссылак? Колькіх беларусаў занесла туды вайна, колькі нашых землякоў паехала ў Сібір на будаўніцтва «светлага будучага» — хто лічыў?

Прызнаюся, што на Дні культуры Рэспублікі Беларусь у Кузбасе, што былі прымеркаваны да 55-годдзя ўтварэння вобласці, ляцеў з нейкім халадком у сэрцы, з насцярожанасцю. Па-першае, ні разу не быў у Сібіры, па-другое, ведаў, што там адбываецца (аварыі шахт, нявыплата па тры гады заробку рабочым). Ды і самалёты часам ці падаюць, ці ўвогуле знікаюць... Ці да нашых песень будзе людзям?

Пяць тысяч кіламетраў адолелі за якіх пяць гадзін. І ўсякая насцярожанасць прайшла ў аэрапорце, дзе нашу дэлегацыю з 56 чалавек цёпла віталі ў Новакузнецку. Потым быў гала-канцэрт майстроў мастацтваў Беларусі, які праходзіў у новакузнецкім цырку. Поўная зала гледачоў, канцэрт працягваўся больш за дзве гадзіны. Кузбасцы ўспрымалі яго як сваё блізкае, роднае, бо карані многіх насельнікаў вобласці — беларускія.

Выдатна выстраеная праграма канцэрта галоўным рэжысёрам Дзяржаўнага аб'яднання «Белканцэрт» Аляксандрам Вавілавым зачаравала гледача: распачаў праграму Беларускі дзяржаўны ансамбль народнай музыкі «Свята» пад кіраўніцтвам заслужанага артыста Беларусі Васіля Купрыяненкі песняй «Мамачка родна, пусці на сяло», далей Алег Мельнікаў, саліст Нацыянальнай оперы РБ, на адным дыханні выканаў песню Ігара Лучанка на словы Расула Гамзатава «Высокія зоры». Падтрымліваючы творчы напал, ішоў канцэрт, а ў ім выступленні: мэтра не толькі Беларусі, але і СНД кампазітара Ігара Лучанка, актэта балалаек Віцебскай філармоніі пад кіраўніцтвам заслужанай артысткі РБ Т. Шафранавай, кампазітара, аднаго з заснавальнікаў фестывалю «Залаты шлягер», што праходзіць у Магілёве, Уладзіміра Браілоўскага, салісткі Нацыянальнай оперы заслужанай артысткі Беларусі Наталлі Рудневай, маладой спявачкі Іскуі Абалян, цымбаліста — студэнта Беларускай акадэміі музыкі, стыпендыята Фонду Прэзідэнта РБ «У падтрымку таленавітай моладзі» Міхася Лявончыка, вакальнай групы Беларускай дзяржаўнай філармоніі «Камерата» пад кіраўніцтвам Ігара Мельнікава, папулярнай і чароўнай спявачкі Іны Афанасьевай, вечна маладога душой народнага артыста Рэспублікі Беларусь Віктара Вуячыча. І кульмінацыяй канцэрта былі, канешне ж, «Песняры», з якімі спяваў, як і раней, заслужаны артыст Валерый Дайнека. У састаў ансамбля вярнуўся і заслужаны артыст Беларусі Уладзіслаў Місевіч. Падчас «песняроўскага» выканання «Белавежскай пушчы», «Лявоніхі», «Касіў Ясь канюшыну» зала не пераставала скандзіраваць «брава», а калі выконвалася песня «Белоруссия», гледачы ўсталі з месцаў, спявалі разам з артыстамі.

...Мора кветак, я не памятаю, каб зімою дарылі столькі кветак нават у куды цяплейшым Мінску. Відаць, цэлая цяпліца працавала да нашага прыезду ў заснежанай Сібіры. Людзі радаваліся кожнаму беларускаму слоўцу, якія сыпала-пералівала абаяльная вядучая праграмы Зінаіда Бандарэнка. Аказваецца, і яе сваякі жывуць у Кузбасе, у горадзе Пракоп'еўску, які самі жыхары называюць сібірскім Парыжам, бо ўшыркі ён 10 кіламетраў, а ўдоўжкі — 18. Тут была закладзена першая на Кузбасе вугальная шахта, а навокал прырасталі пасёлкі. Пасяляліся тут цэлымі калоніямі, сярод якіх шмат і беларускіх.

Наша Айчына — нават у назвах вёсак: ёсць вёска Беларуская. Праўда, даехаць да яе мы не змаглі — за два кіламетры да вёскі трапілася крутая горка, якую не адужаў аўтобус: зімовая Сібір — не жартачкі! Давялося даваць канцэрт у суседняй вёсцы. І што вы думаеце? І там 90 працэнтаў жыхароў — беларусы. Кветак, праўда, было менш, але затое... Затое было тое, што праціналa да слёз: жанчыны папрыносілі сала, салёных агуркоў, капусты: «Можа вы галодныя, паешце». І зноў — перайначаныя лёсы: трапілі падчас ваеннай эвакуацыі ў Сібір ды там і засталіся. «Дзетачкі, як там, на Беларусі, як наша Магілёўшчына? Нам хоць бы глянуць на родную зямельку...» Не паедуць, відаць, у бліжэйшы час — дорага. Затое багата песень паспявалі разам, а гэта — вечнае: душы яднаюцца.

Вельмі многа такіх сустрэч было за чатыры дні. Вось Тамара Аляксееўна Страхава (дзявочае прозвішча Ульянава). Пяць гадоў таму адшукала ў суседнім раёне магілу сваёй бабулі, высланай з Мінска ў 30-я. Тамара Аляксееўна ўжо шмат гадоў сама не ходзіць пасля аўтакатастрофы, але піша вершы, музыку. Яе танга спадабалася ўсім нашым артыстам. У нас новы сябар з'явіўся.

...А нашу дэлегацыю чакала Кемерава. 20 хвілін пералёту — і зноў цудоўныя сустрэчы. Выступаем з гала-канцэртам у зале музычнай камедыі. Нас цёпла вітае губернатар вобласці Аман Тулееў, дзякуе, дорыць падарункі. Наш міністр культуры Аляксандр Сасноўскі, для якога паездка супала з другой гадавінай на пасадзе, выказвае гасцям усё, што і ў нашых сэрцах, — удзячнасць за цудоўныя ўражанні. Спяваем развітальныя песні, фатаграфуемся на памяць — сапраўдную, не пратакольную.

...Цяжка жыве Кузбас — безграшовы, задымлены выдаткамі чалавечай цывілізацыі. Але — з жывою душою, якая цёпла адгукаецца на прыязныя адносіны, на песню. Значыць — адолее ліхалецце.

**Вячаслаў СТАТКЕВІЧ, саліст Дзяржаўнага ансамбля народнай музыкі «Свята».**



**На здымку:** *артысты са «Свята» ў Кемераве.*

### ВАСІЛЬ ПУЛІНОВІЧ:

# «ПАРАДКУ НА ТРАНСПАРЦЕ СТАЛА БОЛЬШ»

**Нямала добрых слоў на нядаўняй калегіі ўпраўлення ўнутраных спраў на транспарце МУС Рэспублікі Беларусь было выказана ў адрас крымінальнай міліцыі. Менавіта гэту службу на працягу шэрагу гадоў узначальвае намеснік начальніка ўпраўлення палкоўнік міліцыі Васіль Пуліновіч. У яго распараджэнні — аддзелы крымінальнага вышуку, па барацьбе са злачыннымі замахамі на грузы, па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю, экспертна-крыміналістычны аддзел з адпаведнай лабараторыяй. Сюды ж адносіцца і аддзяленне па барацьбе з незаконным абаротам наркотыкаў.**

**Пра ўсё гэта — гутарка з В. ПУЛІНОВІЧАМ.**



— Аналізуючы стан крымінальнай абстаноўкі на транспарце, — гаворыць Васіль Пятровіч, — можна (мо ўпершыню за некалькі апошніх гадоў) сказаць, што абстаноўка ў цэлым тут стабілізавалася. Летась на аб'ектах транспарту было зарэгістравана 3317 злачынстваў, што на 2,1 працэнта менш, чым у папярэднім годзе, на 22,3 працэнта зменшылася і колькасць злачынстваў, учыненых у сферы грузавых перавозак. За гэты ж час на 4,1 працэнта менш адбылося цяжкіх злачынстваў, значна паменела колькасць забойстваў, цяжкіх цялесных пашкоджанняў, разбояў, рабаўніцтваў, крадзяжу маёмасці ў пасажыраў... З большай эфектыўнасцю пачала працаваць патрульна-паставая служба.

І нарэшце, што найбольш важна, забяспечаны высокі ўзровень раскрывальнасці злачынстваў, якая дасягнула 87,3 працэнта, што значна больш, чым летась. Лепш забяспечваўся грамадскі парадак на вакзалах і станцыях, у пасажырскіх і прыгарадных цягніках. Колькасць злачынстваў, учыненых у грамадскіх месцах, у цэлым зменшылася на 18,7 працэнта, а ў цягніках — на 18,4 працэнта.

Трэба адзначыць і тое, што многія злачынствы ўдалося раскрыць дзякуючы высокаму прафесіяналізму і самаадданай рабоце нашых супрацоўнікаў. Летась на станцыі Лунінец здарыўся трагічны выпадак: пад цягнік трапіў чалавек. На першы погляд — няшчасны выпадак. Магчыма, што так бы ўсё і скончылася, калі б за справу не ўзяліся прафесіяналы. Дзякуючы экспертызе ўдалося высветліць, што спярша чалавек быў моцна збіты, а потым ужо трапіў пад поезд. Спецыяльная група на чале з начальнікам крымінальнай міліцыі Баранавіцкага аддзела ўнутраных спраў на транспарце Леанідам Белановічам выйшла на след двух падазраваемых, адзін з якіх ужо аднойчы пабываў за кратамі. У ходзе следства было даказана, што двое збілі чалавека, а потым спахапіліся, што за гэта іх могуць прыцягнуць да адказнасці. І тады яны амаль беспрытомнага паклалі на рэйкі. У ходзе раскрыцця гэтага злачынства супрацоўнікі транспартнай міліцыі цесна кантактавалі з Лунінецкім гаррайаддзелам унутраных спраў, мясцовай пракуратурай.

І ўсё ж аператыўная абстаноўка застаецца складанай. Асабліва што датычацца злачынстваў у сферы эканомікі і фінансаў. Нямала сіл і часу аддаюць навядзенню тут парадку супрацоўнікі аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю. Так, летась супрацоўнікамі гэтага падраздзялення Гомельскага аддзела ўнутраных спраў на транспарце было ўстаноўлена, што праз тэрыторыю рэспублікі (з Украіны ў Расію) прайшлі 5 цыстэрнаў са спіртам. У далейшым былі атрыманы звесткі аб тым, што адправіў той груз мясцовы жыхар, да таго ж падманным шляхам. Да гэтага мелі дачыненне супрацоўнікі Гомельскай мытні. У выніку быў затрыманы старшы інспектар мытні, які атрымаў 5000 долараў ЗША хабару, такая ж сума была перададзена яшчэ аднаму інспектару, які прапусціў груз без належнага афармлення дакументаў. Такім чынам, рэспубліцы былі нанесены страты недзе на мільярд расійскіх рублёў. Высветлілася, што гэта не адзінкавы падобны факт. У ходзе вобыску на дачы мытніка выявілі 20 тысяч долараў.

Найбольшую актыўнасць па выяўленню і спыненню фактаў кантрабанднага ўвозу на тэрыторыю рэспублікі алкагольных напояў і тытунёвых вырабаў дэманструюць падраздзяленні БЭЗ Брэсцкага, Аршанскага аддзелаў, Маладзечанскага і Лідскага аддзяленняў унутраных спраў на транспарце. У прыватнасці, пры правядзенні аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў супрацоўнікамі Маладзечанскага аддзялення ўнутраных спраў на транспарце затрыманы 3 чыгуначныя платформы з 9 кантэйнерамі (кожны — па 20 тон), у якіх былі гарэлка і цыгарэты замежнай вытворчасці. А ў суправаджальных дакументах на груз, што паступіў з Калінінграда, значыліся папяровыя сурвэткі і будаўнічыя матэрыялы. Агульны кошт канфіскаванай кантрабанды — недзе каля мільёна долараў. А ўвогуле работнікамі ўпраўлення ўнутраных спраў на транспарце было спынена 1300 спроб кантрабанднага ўвозу ў рэспубліку алкагольных і тытунёвых вырабаў, накладзены арышт на тавары агульным коштам 34,5 мільярда рублёў. У даход дзяржавы канфіскавана маёмасці на 14,6 мільярда рублёў.

***— Органы правапарадку, грамадскасць хвалююць факты росту паступлення ў рэспубліку наркатычнага «зелля». Фактычна наша тэрыторыя становіцца свайго роду калідорам для наркотыкаў, што паступаюць да нас з усіх бакоў. Як вы змагаецеся з гэтым злом?***

— Сапраўды, колькасць злачынстваў, звязаных з незаконным абаротам наркотыкаў, вырасла за апошні час у некалькі разоў. Толькі падраздзяленнямі ўпраўлення ўнутраных спраў на транспарце за мінулы год канфіскавана 350 кілаграмаў макавай саломкі і больш як 5 кілаграмаў марыхуаны. Найбольшую актыўнасць у гэтай справе праявілі супрацоўнікі Гомельскага аддзела ўнутраных спраў на транспарце. За год на Гомельшчыне быў выяўлены 71 факт перавозу небяспечнага грузу, у тым ліку ў Жлобіне — 36 і ў Калінкавічах — 21. Непасрэдна пад кіраўніцтвам начальніка Жлобінскага аддзялення ўнутраных спраў на транспарце Мікалая Барodзіча і начальніка аддзялення крымінальнага вышуку Валянціна Яўзрэзава ў канцы мінулага года былі затрыманы маці і сын, дарэчы, раней ужо судзімы. У звычайнай падушцы яны везлі з Казахстана 3 кілаграмы марыхуаны. Па самых сціплых падліках груз каштаваў больш як 25 тысяч долараў. І прызначаўся ён для рэалізацыі ў папраўча-працоўных калоніях рэспублікі.

Прыкладна тады ж на станцыі Ліда супрацоўнікі транспартнай міліцыі затрымалі дваіх грамадзян. У вялізных баулах, што былі з імі, выяўлена 86 кілаграмаў макавай саломкі.

Бліскуча праведзена аперацыя «Канал» па спыненню фактаў незаконнага ўвозу наркатычнага зелля з Украіны. У гэтай справе былі задзейнічаны супрацоўнікі Мытнага камітэта, КДБ і пагранічнікі. У ходзе аперацыі ўдалося спыніць дзесяткі парушальнікаў, канфіскаваць шмат небяспечнага грузу.

А ўвогуле за год сіламі супрацоўнікаў упраўлення ўнутраных спраў на транспарце было праведзена 35 комплексных і мэтавых спецаперацый, у тым ліку «Вакзал», «Пасажыр», «Невад», «Падлетак», «Праталіна» і інш. Двойчы на працягу года мы сумесна з падраздзяленнямі транспартнай міліцыі Расіі, Украіны і Малдовы праводзілі шырокамаштабныя папераджальна-прафілактычныя аперацыі «Поезд». Асноўныя мэты іх — умацаванне правапарадку ў паяздах міжнародных зносінаў, надзейнае забеспячэнне асабістай і маёмаснай бяспекі пасажыраў, спыненне фактаў незаконнага правозу зброі, боепрыпасаў і наркотыкаў, а таксама выяўленне злачынцаў-«гастралёраў». Або такі прыклад. Правядзенне сумесна з упраўленнем Беларускай чыгункі аперацыі «Кантэйнер» дазволіла затрымаць і канфіскаваць 114 кантэйнераў з грузамі на суму каля 1,5 мільярда рублёў.

Словам, супрацоўнікаў транспартнай міліцыі не папракнеш у тым, што яны дарма ядуць хлеб. Ва ўсякім разе, толькі дзякуючы іх агульным намаганням дзяржаве вернута каштоўнасцяў на дзесяткі мільярдаў рублёў, затрымана і абясшкоджана шмат злачынцаў і парушальнікаў правапарадку. Сёння смела можна канстатаваць: парадку на транспарце стала больш.

**Гутарыў Уладзімір ГОЙТАН.**
**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

# Альгірдас Бразаўскас жадае ўсім працвітання і збіраецца напісаць мемуары

***На працягу доўгіх гадоў імя Альгірдаса Бразаўскаса з'яўлялася ўвасабленнем Літвы. У першую чаргу з яго імем звязаны змяненні ў літоўскім грамадстве на рубяжы дзевяностых гадоў, якія прывялі да з'яўлення незалежнай літоўскай дзяржавы. Заўсёды ўраўнаважаны, павольны ў словах, але паслядоўны і настойлівы ў дзеяннях, элегантны і добразычлівы, ён выклікаў павагу не толькі ў саратнікаў, але і ў апанентаў. Сапраўдны мужчына, як аднойчы сказала аб ім Казімера Прунскене — другі вельмі аўтарытэтны літоўскі палітык.***

***Напярэдадні чарговых прэзідэнцкіх выбараў у Літве барометр грамадскіх настрояў у нашых суседзяў паказваў, што Альгірдас Бразаўскас мае больш за ўсё шанцаў стаць кіраўніком літоўскай дзяржавы на новы тэрмін. Аднак ён зрабіў па-іншаму: адмовіўся балаціравацца на гэту пасаду. Новым прэзідэнтам Літвы выбраны Валдас Адамкус. Яму 26 лютага Альгірдас Бразаўскас і перадасць паўнамоцтвы кіраўніка дзяржавы. Напярэдадні гэтай падзеі Альгірдас Бразаўскас згадзіўся адказаць на пытанні генеральнага дырэктара Беларускага тэлеграфнага агенцтва Якава АЛЯКСЕЙЧЫКА.***

**— Пан Прэзідэнт! Многіх беларусаў да гэтага часу здзіўляе Ваш учынак: маючы практычна стопрацэнтную магчымасць быць перавыбраным, Вы адмовіліся балаціравацца. Якія матывы гэтага неардынарнага ўчынку?**

— Усяму свой час. Нягледзячы на тое, што ацэнку маёй дзейнасці дадуць гісторыкі, ужо сёння магу парадавацца, што вынікі тэрміну маіх паўнамоцтваў ацэньваюцца станоўча. Я адчуваю, што як прэзідэнт выканаў абавязак да канца і таму са спакойнай душой магу перадаць справы Валдасу Адамкусу. Прыемна, што В. Адамкус пацвердзіў намер прадаўжаць маю лінію ў знешняй палітыцы, асабліва ва ўзаемаадносінах з суседзямі. Гэтага я яму ад усёй душы жадаю.

Свет, што нас акружае, вельмі хутка мяняецца, мяняецца грамадства, яно засумавала па новых асобах у палітыцы. І гэта зразумела. Я не лічу рашэнне не выстаўляць сваю кандыдатуру нейкай асаблівай падзеяй.

**— Ваша палітыка добрасуседства здабыла Вам глыбокую павагу ў Беларусі. Якія з вырашаных праблем Вы лічыце галоўнымі?**

— Літве ўдалося ўстанавіць і падтрымліваць добрасуседскія адносіны з Беларуссю, якія адрозніваюцца канструктыўным узаемавыгадным супрацоўніцтвам. Літва і Беларусь супрацоўнічаюць на розных узроўнях, пачынаючы з сустрэч прэзідэнтаў і заканчваючы міжрэгіянальнымі кантактамі. Галоўнае — падпісаны дагавор аб дзяржаўнай граніцы Літвы і Беларусі, завяршаецца работа па яе дэмаркацыі. Актыўна развіваюцца двухбаковыя эканамічныя сувязі, Беларусь з'яўляецца адным з асноўных гандлёвых партнёраў Літвы.

**— Што, па-вашаму, трэба будзе яшчэ зрабіць для ўмацавання добрасуседства і даверу паміж Літвой і Беларуссю? Якія праблемы пяройдуць да Вашага пераемніка?**

— Трэба закончыць работу па дэмаркацыі граніцы, назапашваць сродкі на яе добраўпарадкаванне. Самая актуальная да гэтага часу нявырашаная праблема — дагавор аб рэадмісіі — вяртанні нелегальных мігрантаў. Нам неабходна прадаўжаць дыялог і весці пошук прымальнага для абодвух бакоў рашэння. Я хачу спадзявацца, што ўдасца падпісаць гэты дагавор у пачатку тэрміну паўнамоцтваў новага Прэзідэнта Літоўскай Рэспублікі. Трэба больш актыўна развіваць двухбаковыя эканамічныя адносіны, выкарыстоўваць магчымасць экспартаваць электраэнергію ў вашу краіну, падпісаць некалькі дагавораў у галіне транспарту, асабліва аб выкарыстанні Клайпедскага порта для перавозкі грузаў Беларусі.

**— З вуснаў некаторых палітыкаў даводзілася чуць канфрантацыйныя заявы ў кантэксце адносінаў з Беларуссю. Як Вы ацэньваеце гэтыя выказванні і якая, на Ваш погляд, перспектыва ў палітыкі канфрантацыі ва ўзаемаадносінах з суседзямі?**

— Палітыка канфрантацыі не мае перспектыў. Найлепшая гарантыя стабільнасці і бяспекі ў Еўропе — добрасуседскія адносіны. З'яўляючыся прыхільнікамі такой палітыкі, мы разам з прэзідэнтам Польшчы Аляксандрам Квасьнеўскім арганізавалі «Вільнюскую Канферэнцыю-97», на якой з дакладам выступіў і прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка. Як блізкія суседзі мы зацікаўлены ў развіцці дэмакратыі ў вашай краіне, у дыялогу з еўрапейскімі структурамі. Мы не падтрымліваем прапановы аб ізаляцыі Беларусі: гэта не садзейнічала б умацаванню ўзаемадаверу і стабільнасці ў рэгіёне.

**— Якія Вашы асабістыя планы на будучыню? Ці будзеце Вы ўдзельнічаць у грамадска-палітычным жыцці, калі так, то якім чынам?**

— У першую чаргу неабходна будзе адпачыць, таму што цэлае дзесяцігоддзе я знаходзіўся на вастрыні актыўнай палітычнай дзейнасці.

Я ведаю адно: не буду звязваць сябе ні з якай з палітычных партый. У мяне ёсць розныя планы, я атрымліваю розныя прапановы аб удзеле ў грамадскай дзейнасці, аднак не буду прыспешваць падзеі.

**— Вы з'яўляецеся ўдзельнікам і сведкам важнейшых падзей у найноўшай гісторыі Літвы і Еўропы. Ці зможам мы прачытаць Вашы мемуары? Яны ёсць у Вашых планах?**

— Так, у мяне такія планы ёсць. Можа, роздумы аб пражытай мною эпосе зможа прачытаць і беларускі чытач.

**— Чаго б Вы хацелі пажадаць сваім шматлікім прыхільнікам у нашай краіне і ўсім грамадзянам Беларусі?**

— Людзям Беларусі і іх дзяржаве жадаю працвітання, бо беларускі народ, які зведаў столькі крыўды і несправядлівасці, асабліва ў гады другой сусветнай вайны, даказаў сваю сілу духу і творчыя здольнасці.

Жадаю сапраўднага добрасуседскага і дружалюбнага суіснавання нашым народам і дзяржавам.

**БЕЛТА.**

**Ужо не першы год жыццё сярэднестатыстычнага балгарына па-ранейшаму застаецца цяжкім, насычаным турботамі і штодзённай барацьбой за выжыванне, якая зневажае чалавечую годнасць. Жорсткая мінулагодняя інфляцыя яшчэ абвастрыла становішча. Летась «спажывецкая карзіна» так званага звычайнага жыхара краіны, паводле даных Інстытута сацыяльных і прафсаюзных даследаванняў, падаражэла ў шэсць разоў. Большая частка насельніцтва звыш паловы сродкаў траціць на набыццё прадуктаў харчавання. А 20 працэнтаў сем'яў на гэтыя мэты аддаюць аж 70 працэнтаў свайго бюджэту.**

# БАЛГАРЫЯ АДЧАЙНА ВЫРЫВАЕЦЦА З АБДЫМКАЎ КРЫЗІСУ

Як сцвярджаюць асобныя з'едлівыя назіральнікі і эксперты, сярэдні балгарын выжывае дзякуючы таму, што спажывае толькі мінімум калорый, неабходных для падтрымання жыццядзейнасці свайго арганізма. Думаю, што гэта, хутчэй за ўсё, «чорны гумар». Але, з другога боку, статыстыка гаворыць, што сёння ўсё менш людзей набываюць жыллё, рэчы доўгатэрміновага карыстання, адзенне. Скарацілася колькасць жадаючых паступаць у ВНУ. Можна было б і далей пералічваць праявы беднасці балгар. Сацыяльныя праблемы і хваробы ў многім аналагічныя нашым.

Як і ў нас, у Балгарыі прымаюцца меры, каб вырвацца з абдымкаў крызісу. Апошнім часам у краіне адбываюцца бурныя перамены. У стратэгічным плане сённяшняе кіраўніцтва Балгарыі свае надзеі на лепшую будучыню звязвае з масіраваным развіццём супрацоўніцтва з Еўрапейскім саюзам і паступовым далучэннем да яго. Са структурамі гэтай вельмі ўплывовай арганізацыі ўрад краіны летась вёў напружаныя перагаворы. Некаторыя пытанні ўдалося вырашыць станоўча. Так, з 1 студзеня г. г. зменшаны экспартныя пошліны на сельгаспрадукцыю ў краіны ЕС. Поспехам можна лічыць кансультацыі па антыдэмпінгавых працэдурах ЕС у адносінах да балгарскіх экспарцёраў чорных металаў. Яшчэ два гады таму Еўрапейскае аб'яднанне вугалю і сталі лабіравала ўвядзенне санкцый на метал з Балгарыі, але да радасці апошняй яны не былі прыняты.

Вялікія спадзяванні новае кіраўніцтва ўскладае на прыцягненне замежных інвестыцый. А некаторыя аптымісты, напрыклад, старшыня Агенцтва эканамічнага аналізу і прагнозаў М. Ненава, увогуле прадказвае, што пасля паскарэння працэсу прыватызацыі ў 1998-99 гг. адбудзецца інвестыцыйны бум у вытворчасць краіны.

Па прагнозах айчынных экспертаў, да 2005 года ў эканоміку краіны будуць укладзены велізарныя сродкі: у транспарт — 4 млрд. долараў ЗША, энергетыку — 1,2 млрд. долараў, інфраструктуру — 2,4 млрд. долараў. У Балгарыі разлічваюць, што ролю галоўнага інвестара возьме на сябе Германія. Яна прафінансуе 33 важныя праекты.

З задавальненнем тут успрынялі заяву генеральнага менеджэра адной з буйнейшых карпарацый Паўднёвай Карэі «Хюндаі» аб намеры распачаць «агрэсіўную інвестыцыйную палітыку ў Балгарыі».

Неаднойчы кіраўнікі краіны падкрэслівалі і працягваюць рабіць акцэнт на тым, што Балгарыя выбрала еўрапейскі шлях і не збіраецца збочваць з яго. Важным крокам на гэтым цярністым шляху павінна стаць паляпшэнне эканамічных паказчыкаў гэтага года. Плануецца рост у эканоміцы на 4 працэнты, зніжэнне інфляцыі на 16 працэнтаў.

Калі гэтых паказчыкаў удасца дасягнуць, то можна будзе сур'ёзна гаварыць аб эканамічным ажыўленні ў краіне, дзе летась спад вытворчасці, паводле даных Нацыянальнага статыстычнага інстытута, склаў 10 працэнтаў.

За далучэнне да Еўропы балгарам у сваю чаргу прыйдзецца заплаціць немалую цану. У адпаведнасці з пагадненнем аб асацыяцыі з ЕС, усе аўтамабілі адтуль (новыя і патрыманыя) з новага года ўвозяцца ў Балгарыю без мытных пошлін. Бяспошлінны імпарт прадугледжаны і на шэраг іншых тавараў.

Гэта рашэнне наўрад ці ўмацуе складанае фінансавае становішча краіны. Хаця рэзерв нацыянальнага банка летась дасягнуў рэкорднага ўзроўню за апошнія гады — 2,4 млрд. долараў, грошай у дзяржавы хранічна не хапае. Толькі ў першым квартале Балгарыя павінна ўнесці 450 млн. долараў у лік пагашэння знешняй запазычанасці. А ўсяго за 1998 г. ёй трэба заплаціць па даўгах міжнародным арганізацыям (у асноўным ЕС) 1,8 млрд. нямецкіх марак.

Нагрузка для бюджэту вельмі сур'ёзная. Таму ў краіне з задавальненнем успрынялі навіну аб тым, што Расія пасля доўгіх і цяжкіх перагавораў вяртае Балгарыі доўг у памеры 100 млн. долараў ЗША.

Планы планамі, а пакуль для многіх радавых балгар жыццё па-ранейшаму застаецца барацьбой за выжыванне. Так, урад павысіў у студзені мінімальную зарплату. Але ў канцы мінулага года медыцынскія паслугі сталі платнымі, а ў пачатку гэтага на 20 працэнтаў падаражэў праезд на чыгунцы, марудна, але расце кошт «спажывецкай карзінкі».

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**



**Паўтарагадовая дзічыха Магда была знойдзена фермерамі пазалетась ва ўзросце ўсяго некалькіх месяцаў. Ляснік Станіслаў Букоўскі з мястэчка Бжозы (Паўднёва-Усходняя Польшча) узяў яе да сябе. Тут яна хутка асвоілася і стала сапраўднай хатняй жывёлінай. Яна вельмі любіць сваю новую сям'ю. Аднак пан Букоўскі думае, што вясной, калі пачнецца шлюбны перыяд, Магда ўсё-такі вернецца ў лес.**

# ПАСЛУХАЎШЫ МУЗЫКУ, НЯБОЖЧЫК... УВАСКРЭС

### БАРАБАНАМ ПА СТРАЎНІКУ

Французскі ўрач Рэкам'е (1774—1852) лячыў пацыента барабанным боем. Характэрны яго рэцэпт для багатай пацыенткі, якая пакутавала ад боляў у страўніку: «Страўнік любіць рытм. Пачынаючы з сённяшняга дня герцагіня павінна ў поўдзень і ўвечары есці пад гукі барабана».

На працягу некалькіх месяцаў два барабаншчыкі з усіх сіл акампаніравалі пакутніцы ў час абеду і вячэры. Відаць, нейкая карысць ад такога «лячэння» ўсё ж была, бо Рэкам'е працягнуў барабанатэрапію на няпэўны час.

Кіруючыся той жа тэорыяй, ён вылечыў і пацыентаў з пустымі кашалькамі. Ім Рэкам'е прапісваў: «На працягу трох месяцаў месье павінен маршыраваць услед за ваенным аркестрам, які выходзіць іграць вячэрнюю зару на плошчы Вандом».

І кожны вечар на гэтай парыжскай плошчы пад калючымі поглядамі разявакаў і гукі ваеннага аркестра старанна маршыравалі старыя і малыя, мужчыны і жанчыны, худыя і тоўстыя...

Калі такія эфектыўныя барабаны, то на што здольны цэлы аркестр? У 1786 годзе ўсе газеты Францыі былі запоўнены паведамленнямі пра такі цуд. У арганіста манастыра паблізу Шатадзёна здарыўся нервовы прыступ. Урач выпісаў нейкае лякарства і пайшоў па сваіх справах. На світанні яго зноў запрасілі: хворы не падаваў прымет жыцця. Урач са спачуваннем канстатаваў гэта...

І раптам яго асяніла. Ён кінуўся ў гарнізон, які стаяў непадалёку, і папрасіў у начальства аркестр. З музыкантамі паімчаў у манастыр. Тым часам манахі ўжо паклалі нябожчыка на катафалк. Доктар вакол яго выстраіў аркестрантаў і загадаў іграць. Тыя грымнулі бадзёры марш.

Раптам у нябожчыка задрыжалі вейкі. «Давай-давай!» — крычаў урач. Музыканты стараліся з усіх сіл. Барабаны грымелі, трашчоткі аглушальна трашчалі, трубы вылі, як у дзень Страшнага Суда... Нябожчык адкрыў вочы і ўздыхнуў. Усе былі ўзрушаныя.

### МУЗЫКА ВЫРАТОЎВАЕ АД ТУРМЫ

Уплыў музыкі на душу чалавека быў заўважаны яшчэ ў глыбокай старажытнасці. Гукамі арфы, напрыклад, біблейскі Давід выганяў злога духа з цара Саула.

Флейтыст Антыгенід у час бalявання гукамі свайго інструмента так захапіў Аляксандра Македонскага, што той схапіў зброю і накінуўся на сваіх гасцей. На шчасце, пачаў музіцыраваць вядомы выканаўца Цімафеос. Яго мелодыя ўціхамірыла геніяльнага палкаводца.

Неапалітанскі спявак Пальма валодаў залатым голасам і бесталковым характарам. Яму пастаянна не хапала грошай, і ён многім быў вінен. Усе крэдыторы паважалі талент і не вельмі настойвалі на вяртанні даўгоў. Але адзін аказаўся Плюшкіным. Разгарачыўшыся, ён сабраўся ўпячы «салаўя» ў даўгавую турму. З ордэрам на арышт і мардаваротамі ў форме крэдытор прыбыў да дома Пальма.

Раптам з дома пачуліся чароўныя гукі музыкі. Затым да іх далучыўся боскі голас. Гэта вялікі тэнар рэпеціраваў арыю.

Крэдытор спыніўся як укапаны, і па твары яго пацяклі слёзы. Калі арыя закончылася, ён расплакаўся, кінуўся ў пакой да спевака і дараваў яму ўсе даўгі. Больш таго, выдаў Пальма новы крэдыт!

### ТРАМБОН ВЫЛЕЧЫЦЬ ГЛУХАТУ

Але ці вылечвае музыка хваробы цела? Наконт гэтага сярод спецыялістаў адзінай думкі няма. Вялікі Гален лічыў, што — так. Ён прапаведаваў, што пры ўкусе змяі або скарпіёна правільна падабраная музыка забівае яд. Аўл Гелій запэўніваў, што музыка садзейнічае вылячэнню рэўматызму. Дэмакрыт спадзяваўся, што ёю можна перамагчы чуму...

Медыкі перыяду барока ў сваёй практыцы прытрымліваліся тэорыі падабенства. У адпаведнасці з ёю для кожнай хваробы можна знайсці эфектыўныя лекі, калі кіравацца ўказаннем матухны-прыроды. А ўказанні яе простыя, як агурок: ёсць расліны, падобныя на нейкія часткі чалавечага цела. У іх і заключаецца панацэя!

Маючыя форму сэрца карані і фрукты добра дзейнічаюць пры захворваннях сэрца; кавыль дапамагае пры аблысенні; гранатавае зерне дапамагае пры зубной болі; грыбы, якія растуць на дрэвах, рассмоктваюць пухліны і г. д. Якая прастора для фантазіі!

З гэтай тэорыі лагічна вынікала і музычная медыцына. Эскулапы дадумаліся: любую хваробу можна вылечыць музыкай пры ўмове, калі музычны інструмент зроблены з расліны, якая з'яўляецца лекамі супраць гэтай хваробы!

Тым, хто спадзяецца на яе, трэба ўлічваць назіранні, зробленыя прафесарам Гаванскага універсітэта Гардонам-і-Акостай яшчэ ў 1846 годзе: скрыпка вылечвае меланхолію і іпахондрыю; альт дапамагае пры слабасці, выкліканай неўрозамі; арфа — вораг істэрыі; англійскі ражок супакойвае гнеў; трамбон вылечвае глухату; барабан — універсальны сродак для барацьбы з хваляваннямі на нервовай глебе.

*«АиФ-Здоровье».*

36,6°

# РАСЛІНЫ СУПРАЦЬ РАКА

**Наш карэспандэнт гутарыць з вядомым фітатэрапеўтам, вялікім знаўцам народнай медыцыны, аўтарам многіх манаграфій і навукова-папулярных кніг прафесарам А. Ф. СІНЯКОВЫМ.**

— Адным з фактараў, якія зніжаюць імуналагічныя рэакцыі і, значыць, спрыяюць узнікненню рака, з'яўляецца захапленне гарманальнымі прэпаратамі, транквілізатарамі і некаторымі іншымі медыкаментамі, якія, на жаль, усё часцей сталі прымацца пацыентамі.

**— Ці аказваюць адаптагены проціпухлінны эфект? Ці, можа, наадварот, паскараюць рост пухліны?**

— Нагадаю, што адаптагены — гэта група рэчываў, у асноўным расліннага паходжання, якія якраз і ўзмацняюць імунітэт, павышаюць устойлівасць арганізма чалавека да неспрыяльных уплываў навакольнага асяроддзя. Акрамя гэтага, яны стымулююць сінтэз шэрагу эндагенных біястымулятараў (інтэрферону, інтэрлейкіну і інш.), якія актывізуюць імунную сістэму. Значыць, адаптагены дапамагаюць арганізму змагацца з новаўтварэннямі.

**— Якія расліны належаць да адаптагенаў?**

— Жэньшэнь, элеўтэракок, аралія, лімоннік кітайскі, заманіха, радыёла ружовая («залаты корань»), стэркулія, ляўзея, кветкавы пылок, матачнае малачко, пантакрын і інш. Паводле апошніх даных, адаптагенныя якасці выяўлены і ў соку трыпутніку, алоэ, пупышак бярозы, глогу крывавачырвонага, дзевясіла і інш. Цяпер ужо даказана, што ўказаныя адаптагены істотна павышаюць проціпухлінную ўстойлівасць арганізма і значна тармозяць метастазіраванне злаякасных новаўтварэнняў.

**— А якія расліны валодаюць проціпухлінным дзеяннем?**

— На сённяшні дзень вядома ўжо больш за 100 такіх раслін. Сярод іх ёсць і тыя, якія непасрэдна ўздзейнічаюць на ракавую клетку. Гэта, напрыклад, познацвет цудоўны, падафіл, барвёнак ружовы, чыстацел вялікі, катаранус ружовы, амяла белая, шабельнік балотны, вадзяны перац, шлемнік байкальскі, вятроўнік, рапяшок звычайны, бархат амурскі...

**— Вы, Аляксей Фёдаравіч, з'яўляецеся прыхільнікам спалучэння лекавых раслін і прадуктаў пчалярства, у тым ліку і пры лячэнні злаякасных новаўтварэнняў. Чаму?**

— Таму што атрымліваецца сумарнае дзеянне лекавых кампанентаў раслін і прадуктаў пчалярства (у прыватнасці пропалісу), якія ўзмацняюць імунітэт і павышаюць эфектыўнасць проціпухліннага лячэння.

**— Вось слухаю я вас, а ў мяне самога пастаянна круціцца думка: ці не ўспрымуць некаторыя чытачы нашу з вамі размову як заклік лячыцца цяпер ад рака толькі лекавымі раслінамі? А вас гэта не хвалюе?..**

— Хвалюе, і нават вельмі: не хацелася, каб наша з вамі сустрэча разглядалася як чарговая спроба неапраўданай рэкламы фітатэрапіі рака. Мне хочацца асабліва падкрэсліць, што эфект лячэння травамі, у тым ліку і рака, значна ўступае вынікам ад хімія- і прамянёвай тэрапіі, таму лекавыя травы выкарыстоўваюцца звычайна толькі ў якасці дапаможных сродкаў. Аднак расліны маюць перавагу: яны малатаксічныя і рэдка аказваюць пабочны ўплыў, у той час як хіміятэрапія часта прыводзіць да цяжкіх ускладненняў. Другая каштоўнасць лекавых раслін заключаецца ў тым, што яны ўзмацняюць лячэбнае дзеянне хіміятэрапіі і зніжаюць яе пабочныя ўздзеянні, аказваюць агульнаўмацавальнае і біястымулюючае ўздзеянне на арганізм хворага на рак.

**Гутарыў Вячаслаў НІКАЛАЕЎ.**

*«АиФ-Здоровье».*

## ВІНШАВАННІ

*Дарагая мамачка і бабуля* **Галіна Харытонаўна ШАМЕЦЬКА** *з в. Грабянец Чэрвеньскага раёна, ад усёй душы віншуем цябе з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя, поспехаў у працы, шчасця ў жыцці.*

**Муж, дзеці, унук.**

*Віншую* **Наталлю РАЙ і Андрэя УШАЦКАГА** *з в. Улазавічы Валожынскага раёна са шлюбам. Жадаю вам здароўя, павагі, шчасця і кахання на доўгае сумеснае жыццё.*

**Тэрэза Зялкоўская.**

*Дарагую і любую мамачку* **Вольгу Нічыпараўну КАНАВАЛАВУ** *віншуем з днём нараджэння. Жадаем здароўя, радасці, бадзёрасці і даўгалецця.*

**Дочкі Люда і Ала,** г. Светлагорск.

# Каляндар міжнародных спаборніцтваў на 1998 год, дзе плануецца удзел беларускіх спартсменаў

| ВІДЫ СПОРТУ | Месяц і дата правядзення | Месца правядзення |
|---|---|---|
| **ЛЮТЫ** | | |
| **Чэмпіянаты свету** | | |
| Веславанне акадэмічнае «Канцэпт» | 13—15 | ЗША |
| Бадмінтон. Адбор. каманд. спаборніцтвы | 14—21 | Нарвегія |
| **Чэмпіянаты Еўропы** | | |
| Гандбол. Адб. гульня з Румыніяй | 11—12 | Румынія (жан.) |
| Гандбол. Адб. гульня з Румыніяй | 14—15 | **Мінск** (жан.) |
| Баскетбол. Адб. гульня з Англіяй | 24—26 | **Мінск** (муж.) |
| Лёгкая атлетыка (у памяшканні) | 27 лютага—1 сакавіка | Іспанія |
| Баскетбол. Адб. гульня з Украінай | 27 лютага—1 сакавіка | **Мінск** (муж.) |
| Кікбоксінг тайландскі бокс | 28 лютага—10 сакавіка | Іспанія |
| **САКАВІК** | | |
| **Чэмпіянаты свету** | | |
| Лыжны спорт — біятлон. Гонка праследв. | 1—8 | Славенія |
| Парусны спорт | 1—14 | ААЭ |
| Л.с. — біятлон Каманд. гонка | 9—15 | Аўстрыя |
| Канькабежны спорт. Мнагабор'е | 13—15 | Галандыя |
| Фігурнае катанне | 29 сакавіка—5 красавіка | ЗША |
| **Чэмпіянаты Еўропы** | | |
| Стральба з лука (у памяшканні) | 2—9 | Германія |
| Стральба кулявая | 9—15 | Эстонія |
| Гандбол. Адб. гульня з Польшчай | 11—12 | **Мінск** (жан.) |
| Гандбол. Адб. гульня з Польшчай | 14—16 | Польшча (жан.) |
| Лёгкая атлетыка па кросу | 20—21 | Марока |
| **Кубкі свету (фіналы)** | | |
| Л.с. — фрыстайл | 13—15 | Аўстрыя |
| **Кубкі Еўропы (фіналы)** | | |
| Л.с. — біятлон | 16—20 | Расія |
| **КРАСАВІК** | | |
| **Чэмпіянаты свету** | | |
| Футбол. Адб. на Алімпійскія гульні | красавік | па назначэнню |
| Канькабежны спорт Асобн. дыст. | 3—5 | Канада |
| **Чэмпіянаты Еўропы** | | |
| Футбол. Адб. гульня | красавік | па назначэнню |
| Барацьба самба | красавік | Іспанія |
| Бадмінтон | 21—26 | Балгарыя |
| Гімнастыка спартыўная | 22 красавіка—4 мая | Расія |
| Барацьба грэка-рымская | 23—26 | **Мінск** |
| Тэніс настольны | 23 красавіка—3 мая | Галандыя |
| Цяжкая атлетыка | 26 красавіка—3 мая | Германія |
| Гандбол. Адб. гульня са Славакіяй | 29—30 | Славакія (жан.) |
| **Кубкі Еўропы (фіналы)** | | |
| Скачкі ў ваду | 2—5 | Расія |
| **МАЙ** | | |
| **Чэмпіянаты свету** | | |
| Хакей з шайбай | 1—17 | Швейцарыя |
| Футбол. Адб. на Алімпійскія гульні | май | Па назначэнню |
| Гімнастыка мастацкая | 8—10 | Іспанія |
| Бадмінтон (фінал камандны) | 20—24 | Ганконг |
| **Чэмпіянаты Еўропы** | | |
| Шашкі «100» (жан.) | май | Па назначэнню |
| Футбол. Адб. гульня | май | Па назначэнню |
| Гандбол. Адб. гульня са Славакіяй | 2—3 | **Мінск** (жан.) |
| Парусны спорт «Аптыміст» | 3—8 | Харватыя |
| Барацьба вольная | 7—10 | Славакія |
| Баскетбол. Адб. турнір (жан.) | 13—17 | Чэхія |
| Паўэрліфтынг | 13—17 | Фінляндыя |
| Дзюдо | 13—18 | Іспанія |
| Бокс | 16—26 | **Мінск** |
| Сучаснае пяцібор'е (жан.) | 21—24 | Польшча |
| Сучаснае пяцібор'е (муж.) | 21—24 мая | Швецыя |
| Гімнастыка мастацкая | 28—30 | Партугалія |
| **Кубкі свету (фіналы)** | | |
| Барацьба самба | 28—31 | Расія |
| **ЧЭРВЕНЬ** | | |
| **Чэмпіянаты свету** | | |
| Кікбоксінг—тайландскі бокс | 8—11 | Італія |
| **Чэмпіянаты Еўропы** | | |
| Стральба стэндавая | 9—15 | Кіпр |
| Валейбол. Адб. гульня з Харватыяй | 3—5 | **Мінск** (муж.) |
| Валейбол. Адб. гульня з Балгарыяй | 6—7 | Балгарыя (жан.) |
| Армрэслінг | 10—14 | Літва |
| Валейбол. Адб. гульня з Балгарыяй | 30 | **Мінск** (жан.) |
| Фехтаванне | 29 чэрвеня—6 ліпеня | Балгарыя |
| **Кубкі свету (фіналы)** | | |
| Таэквандо | 5—7 | Германія |
| Бокс | 13—21 | Кітай |
| **Кубкі Еўропы (фіналы)** | | |
| Лёгкая атлетыка | 6—7 | Швецыя |
| **ЛІПЕНЬ** | | |
| **Чэмпіянаты свету** | | |
| Футбол. Адб. на Алімпійскія гульні | ліпень | Па назначэнню |
| Стральба кулявая | 9—24 | Іспанія |
| Стральба стэндавая | 22—30 | Іспанія |
| Тэніс. Кубак Дэвіса (муж. этап) | 17—19 | Марока |
| Парусны спорт «Еўропа» | 25 ліпеня—2 жніўня | Германія |
| Сучаснае пяцібор'е | 27 ліпеня—2 жніўня | Францыя |
| **Чэмпіянаты Еўропы** | | |
| Футбол. Адб. гульня | ліпень | Па назначэнню |
| Трыятлон | 2—6 | Аўстрыя |
| Воднае пола група «Б» | 1—11 ліпеня | Турцыя |
| Парусны спорт «Солінг» | 4—11 | Славенія |
| Валейбол. Адб. гульня з Германіяй | 4—5 | Германія (жан.) |
| Хакей на траве. Адб. гульні (жан.) | 5—12 | Фінляндыя |
| Хакей на траве. Адб. гульні (муж.) | 6—12 | Іспанія |
| Парусны спорт «Еўропа» | 10—16 | Швейцарыя |
| Валейбол. Адб. гульня з Германіяй | 11 | **Мінск** (жан.) |
| Валейбол. Адб. гульня з Расіяй | 13 | **Мінск** (жан.) |
| Валейбол Адб. гульня з Расіяй | 15—16 | Расія (жан.) |
| Парусны спорт «470» | 21—30 | Турцыя |
| Парусны спорт «Лазер» | 29 ліпеня—4 жніўня | Аўстрыя |
| **Кубкі свету (фіналы)** | | |
| Веславанне на байд. і каноэ (юн.) | 4—6 | Польшча |
| Веславанне акадэмічнае | 10—12 | Швейцарыя |
| **ЖНІВЕНЬ** | | |
| **Чэмпіянаты свету** | | |
| Футбол. Адбор. на Алімпійскія гульні | Жнівень | Па назначэнню |
| Веласпорт-трэк | 26—30 | Францыя |
| Барацьба грэка-рымская | 27—30 | Швецыя |
| Трыятлон | 29—30 | Швейцарыя |
| **Чэмпіянаты Еўропы** | | |
| Футбол. Адбор. гульня | Жнівень | Па назначэнню |
| Вадналыжны спорт (за катэрам) | 3—9 | Аўстрыя |
| Вадналыжны спорт (да 21 года) | 13—16 | Германія |
| Веласпорт (шаша) | 13—15 | Швецыя |
| Лёгкая атлетыка | 16—23 | Венгрыя |
| Стральба з лука | 24—30 | Францыя |
| Веславальны слалам | 24—26 | Аўстрыя |
| Валейбол. Адбор. гульня з Латвіяй | 28—30 | **Мінск** (муж.) |
| **Кубкі свету (фіналы)** | | |
| Сучаснае пяцібор'е | 8—10 | Данія |
| Вадналыжны спорт (электрат.) | 20—23 | Германія |
| **ВЕРАСЕНЬ** | | |
| **Чэмпіянаты свету** | | |
| Лёгкая атлетыка на 100 км | Верасень | Галандыя |
| Парусны спорт «470» | 3—12 | Іспанія |
| Л. С. — біятлон (летні біятлон) | 24—27 | Славакія |
| Лёгкая атлетыка (паўмарафон) | 27—28 | Швейцарыя |
| Веславанне на байдарках і каноэ | 2—6 | Венгрыя |
| Барацьба вольная | 5—11 | Іран |
| Веславанне акадэмічнае | 6—13 | Германія |
| Шахматы (алімпіяда) | 25 верасня — 10 кастрычніка | Расія |
| **Чэмпіянаты Еўропы** | | |
| Валейбол. Адбор. гульня з Латвіяй | 4—6 | Латвія (муж.) |
| Скачкі на батуце | 9—14 | Германія |
| Валейбол. Адбор. гульня з Харватыяй | 11—13 | Харватыя (муж.) |
| Валейбол. Адбор. гульня з Македоніяй | 18—20 | Македонія (муж.) |
| Вадналыжны спорт (электрат.) | 19—22 | ПАР |
| Веласпорт-трэк | 18—20 | Па назначэнню |
| Гандбол. Адб. гульня (муж.) | 23—25 | **Мінск** |
| Валейбол. Адбор. гульня з Македоніяй | 25—27 | **Мінск** (муж.) |
| Гандбол. Адб. гульня (муж.) | 26—28 | па назначэнню |
| **Кубкі свету (фіналы)** | | |
| Стральба стэндавая | 17—21 | Італія |
| Стральба кулявая | Верасень-кастрычнік | Па назначэнню |
| Дзюдо | 11-14 | **Мінск** |
| Лёгкая атлетыка | 11-13 | ПАР |
| **Кубкі Еўропы (фіналы)** | | |
| Цяжкая атлетыка | Верасень | Па назначэнню |
| Тэніс настольны | 11—13 | Германія |
| Вадналыжны спорт катэр | 17—21 | Францыя |
| **КАСТРЫЧНІК** | | |
| **Чэмпіянаты свету** | | |
| Футбол. Адбор. на Алімпійскія гульні | Кастрычнік | Па назначэнню |
| Шашкі «64» | 5—20 | Па назначэнню |
| Скачкі на батуце | 4—12 | Аўстралія |
| Парусны спорт «Фін» | 4—16 | ПАР |
| Фехтаванне | 4—11 | Швейцарыя |
| Веласпорт (шаша) | 6—11 | Галандыя |
| Барацьба самба | 16—19 | Расія |
| Акрабатыка спартыўная | 25 кастрычніка—1 лістапада | **Мінск** |
| Армрэслінг | Кастрычнік—снежань | ЗША |
| **Чэмпіянаты Еўропы** | | |
| Футбол. Адбор. гульня | Кастрычнік | Па назначэнню |
| Гандбол. Адб. гульня (муж.) | 20—22 | Па назначэнню |
| Таэквандо | 22—25 | Галандыя |
| Гандбол. Адб. гульня (муж.) | 26—28 | **Мінск** |
| **Кубкі Еўропы (фіналы)** | | |
| Стральба кулявая | 10—13 | Фінляндыя |
| **ЛІСТАПАД** | | |
| **Чэмпіянаты свету** | | |
| Валейбол (жан., фінал) | 3—12 | Японія |
| Цяжкая атлетыка | 7—15 | Фінляндыя |
| Паўэрліфтынг | 10—15 | Украіна |
| Культурызм | 12—16 | Турцыя |
| Гіравы спорт | 20—22 | Украіна |
| **Чэмпіянаты Еўропы** | | |
| Тэніс камандны (муж.) | Лістапад | Па назначэнню |
| Тэніс камандны (жан.) | Лістапад | Па назначэнню |
| Шашкі «100» (муж.) | 11—20 | Галандыя |
| Гандбол. Адб. гульня (муж.) | 24—26 | **Мінск** |
| Баскетбол. Адб. гульня з Ізраілем | 24—26 | **Мінск** (муж.) |
| Кікбоксінг | 27—30 | Германія |
| Гандбол Адб. гульня (муж.) | 28—30 | Па назначэнню |
| Баскетбол Адб. гульня з Даніяй | 27—29 | Данія (муж.) |
| **СНЕЖАНЬ** | | |
| **Чэмпіянаты свету** | | |
| Шашкі (жан.) Матч за званне чэмпіёна | Снежань | Па назначэнню |
| **Чэмпіянаты Еўропы** | | |
| Баскетбол. Адб. гульня з Іспаніяй | 1—3 | **Мінск** (муж.) |
| Гандбол фінал | 11—20 | Галандыя (жан.) |
| Плаванне па кароткай вадзе | 11—13 | Англія |
| **Кубкі свету (фіналы)** | | |
| Бадмінтон | 16—20 | Па назначэнню |
| **Кубкі Еўропы (фіналы)** | | |
| Лёгкая атлетыка па кросу | 12—13 | Італія |

**На працягу 1998 года запланаваны ўдзел у больш чым 200 этапах Кубкаў свету і Еўропы па 30 відах спорту.**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве —31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.* **ФАКС:** *68-27-79.* **E-mail:** *daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 84.119. Індэкс 63850.
Зак. № 618.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12